

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 15 снежня 1989 г. № 50 (3512) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


### *Надзённая цытата*

**У пераломны час — слова да дзеячаў навукі і культуры, спецыялістаў народнай гаспадаркі. З вашым удзелам народ вырашае важнейшыя задачы перабудовы, грамадства ўзбагачаецца новай гістарычнай, палітычнай, экалагічнай свядомасцю. Без вашага бясстрашнага аналізу, без абвостранага пачуцця болю за лёс краіны не было б і перабудовы, і новага мыслення. Партыя будзе верная ленінскай традыцыі дыялога з інтэлігенцыяй і спадзяецца, што людзі інтэлектуальнай працы заўсёды і за ўсім будуць несці святло дабра, узаемаразумення і брацтва.**

**Са звароту ЦК КПСС «Да савецкага народа».**

# НА ПРЫНЦЫПАХ ДЭМАКРАТЫЧНАГА САЦЫЯЛІЗМУ

## У МАСКВЕ ПРАЦУЕ ДРУГІ З'ЕЗД НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР

Пры адкрыцці З'езда 12 снежня выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў. Шэсць месяцаў, сказаў ён, аддзяляюць цяперашні З'езд ад першага З'езда народных дэпутатаў, на якім быў закладзены фундамент радыкальнага абнаўлення палітычнай сістэмы... Мала які час у айчыннай гісторыі можа параўнацца з гэтым — па шчыльнасці падзей, іх уздзеянні на лёс краіны, яе будучыню.

Рэвалюцыйныя пераўтварэнні, падкрэсліў М. С. Гарбачоў, пачатыя па ініцыятыве партыі, выліліся ў шырокі магутны рух народных мас. І ён неадольны. Набыўшы гарантыі ў гэтым народным руху, перабудова, абнаўленне жыцця грамадства на прынцыпах гуманнага дэмакратычнага сацыялізму сталі незваротнымі.

Пасля сфарміравання рабочых органаў З'езда — прэзідыума і сакратарыята — народныя дэпутаты СССР абмеркавалі парадак дня. У працяглых дэбатах па гэтым пытанні прынялі ўдзел многія дэпутаты з розных рэспублік. У выніку галасавання па пунктах (у асобных выпадках яно было паіменным) быў зацверджаны наступны парадак дня:

**1. Аб прызнанні паўнамоцтваў народных дэпутатаў СССР, выбраных пасля першага З'езда народных дэпутатаў СССР. Даклад Мандатнай камісіі.**

**2. Аб мерах па аздараўленні эканомікі, этапах эканамічнай рэформы і прынцыповых падыходах да распрацоўкі трынаццатага пяцігадовага плана. Даклад Савета Міністраў СССР.**

**3. Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) СССР па пытаннях выбарчай сістэмы.**

**4. Аб Рэгламенце З'езда народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савета СССР.**

**5. Аб праектах заканадаўчых актаў, якія вызначаюць статус народных дэпутатаў у СССР, статус народных дэпутатаў СССР і іншыя пытанні, звязаныя з дэпутацкай дзейнасцю.**

**6. Аб праекце Закона аб канстытуцыйным наглядзе ў СССР.**

**7. Выбранне Камітэта канстытуцыйнага нагляду СССР.**

**8. Аб узмацненні барацьбы з арганізаванай злачыннасцю.**

**9. Паведамленне камісій, утвораных першым З'ездам народных дэпутатаў СССР, Камітэта Вярхоўнага Савета СССР па міжнародных справах аб палітычнай ацэнцы рашэння аб уводзе савецкіх войск у Афганістан, а таксама Камісіі Вярхоўнага Савета СССР па разгляду прывілей, якімі карыстаюцца асобныя катэгорыі грамадзян.**

Па ключавым пытанні парадку дня з дакладам «Эфектыўнасць, кансалідацыя, рэформа — шлях да здаровай эканомікі» выступіў Старшыня Савета Міністраў СССР М. І. Рыжкоў.

У дыскусіі па гэтым пытанні выступілі, у прыватнасці, народныя дэпутаты СССР Г. В. Наважылаў, У. А. Івашка, М. В. Кавалёў, А. У. Уласаў, Г. Х. Папоў, Я. К. Лігачоў і іншыя.

Дэпутаты ўтварылі рэдакцыйную камісію З'езда, а таксама шэсць рэдакцыйных камісій па дапрацоўцы праектаў рашэнняў па розных пытаннях парадку дня.

14 снежня З'езд працаваў па секцыях.

Наперадзе — дні напружанай работы.

**(Па матэрыялах ТАСС, БЕЛТА).**





●

**7 снежня ў Доме літаратара адбылася сустрэча вучняў беларускамоўных класаў сталіцы рэспублікі і іх бацькоў з народным пісьменнікам Беларусі Янкам Брылём. Прысутныя распытвалі ў Івана Антонавіча пра яго жыццёвы і творчы шлях, цікавіліся ягонымі думкамі пра вострыя праблемы, якія паўсталі сёння перад нашым грамадствам, прасілі выказаць свае адносіны да БНФ «Адраджэнне» і яго кіраўнікоў, да нацыянальнай сімволікі. Дарэчы будзе нагадаць, што гэта не першы падобны вечар, наладжаны гарадскім бацькоўскім камітэтам беларускамоўных класаў Мінска. У мінулым і пачатку сёлетняга года падобныя сустрэчы адбыліся з Васілём Быкавым, Барысам Сачанкам, Кастусём Тарасавым.**

**НАШ КАР.**

Янка Брыль гутарыць з вучнямі беларускамоўных класаў і іх бацькамі.

Фота Ул. КРУКА.

●

# «ВЫБАРЧЫ КЛУБ «ЛіМа»

**У мінулым нумары, паведамляючы пра пачатак кампаніі па выбарах народных дэпутатаў БССР і мясцовых Саветаў, наш штотыднёвік распачаў новую рубрыку—«Выбарчы клуб «ЛіМа», а таксама звярнуўся да чытачоў з наступнымі пытаннямі.**

**1. Як вы асабіста разумееце лозунг «Уся ўлада Саветам!»! Якія, на ваш погляд, практычныя шляхі яго рэалізацыі!**

**2. Як вы ўяўляеце і збіраецеся ажыццяўляць сваё грамадзянскае права выбіраць і быць выбраным у Саветы народных дэпутатаў!**

**3. Ваш ідэал народнага дэпутата! Каго канкрэтна вы хацелі б бачыць у дэпутацкім корпусе рэспублікі!**

**Рэдакцыя пачала атрымліваць першыя водгукі.**

**На выбарах** мая сям'я будзе галасаваць за рэальную самастойнасць рэспублікі, за родную мову і, адпаведна, аддадзім свае галасы тым, хто будзе за гэта змагацца.

**М. ГРЫЦАЎ,**
**ветэран вайны і працы.**

□

**Адной** з умоў ажыццяўлення лозунга «Уся ўлада Саветам!» павінна быць адмена 6-га артыкула Канстытуцыі СССР, бо сёй-той з прадстаўнікоў апарату больш клапоціцца аб уласным становішчы, чым аб эканоміцы краіны і жыцці народа ўвогуле. Таксама патрэбна прыняцце такіх законаў, якія б разняволілі гаспадарчую ініцыятыву.

У Саветы павінны быць выбраны людзі з чыстай душой і чыстымі рукамі. Менавіта яны здолеюць прадстаўляць інтарэсы народа і забяспечыць яго сапраўднае адзінства.

Кожны грамадзянін мае права выбіраць, але выбранымі, лічу, можа быць толькі той, хто мае на гэта падставы — трывалыя юрыдычныя і эканамічныя веды, а таксама комплекс чалавечых якасцей — міласэрнасць, спагадлівасць, разважлівасць.

Мой ідэал дэпутата: С. Шушкевіч, Г. Ерамееў, І. Абламейка, М. Ігнатовіч, А. Дабравольскі, А. Жураўлёў. Хацелася б, каб у Вярхоўным Савеце БССР былі такія людзі, як З. Пазняк, Ю. Хадыка, В. Быкаў, Г. Бураўкін, М. Ткачоў, Я. Канапля, А. Белавусаў, А. Марачкін, В. Вячорка, Г. Грушавы, С. Габрусеў.

**Л. СТАЛЬМАКОЎ.**

□

**Дасылаю** адказы на пытанні рэдакцыі.

1. Поўная незалежнасць заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады. Саветы—адзіныя гаспадары на сваёй тэрыторыі і падпарадкоўваюцца толькі вышэйстаячым Саветам.

2. Мяркую прыняць самы непасрэдны ўдзел у выбарах. Бо менавіта зараз рашаецца лёс маёй краіны.

3. Ідэал дэпутата — кампетэнтны, разважлівы, сціплы, добразычлівы чалавек з добрым пачуццём гумару. Гэтым якасцям, на маю думку, адпавядаюць В. Быкаў, М. Ігнатовіч, А. Жураўлёў, С. Шушкевіч, З. Пазняк, А. Грыцкевіч, А. Вярцінскі, Я. Брыль, П. Садоўскі, В. Вячорка.

**А. ТРУСАЎ,**
**археолаг.**

# ЗАКОН Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# Аб мовах у Беларускай ССР

Мова—не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова яго культуры. Жыве мова—жыве народ. Кожная мова—неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву.

Гонар і абавязак усіх—любіць і шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў.

У Беларусі здаўна жылі людзі розных нацыянальнасцей, гучалі розныя мовы. Аднак у выніку адыходу ад ленінскай нацыянальнай палітыкі сфера ўжывання мовы карэннага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне. Паўстала неабходнасць аховы беларускай мовы на дзяржаўна-этнічнай тэрыторыі. Такую сістэму аховы дазваляе стварыць толькі наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы Беларускай ССР.

Статус беларускай мовы як дзяржаўнай не закранае канстытуцыйных правоў грамадзян іншых нацыянальнасцей карыстацца рускай ці іншымі мовамі. Усе грамадзяне Беларускай ССР, незалежна ад нацыянальнасці і роднай мовы, карыстаюцца роўнымі правамі і маюць роўныя абавязкі перад дзяржавай.

## I. Агульныя палажэнні

**Артыкул 1. Мэты заканадаўства аб мовах у Беларускай ССР**

Заканадаўства Беларускай ССР аб мовах мае на мэце ўрэгуляваць грамадскія адносіны ў галіне развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі ў дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, ахову канстытуцыйных правоў грамадзян у гэтай сферы, выхаванне паважлівых адносін да нацыянальнай годнасці чалавека, яго культуры і мовы, далейшае ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва народаў.

**Артыкул 2. Дзяржаўная мова Беларускай ССР**

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Беларуская ССР забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай—мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР.

Беларуская ССР праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі.

Рэспубліканскія і мясцовыя, дзяржаўныя, партыйныя органы, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі ствараюць грамадзянам Беларускай ССР неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі.

Закон не рэгламентуе ўжыванне моў у неафіцыйных зносінах, у зносінах членаў працоўных калектываў паміж сабой, ва Узброеных Сілах СССР, пагранічных і ўнутраных войсках, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР.

**Артыкул 3. Права грамадзян карыстацца іх нацыянальнай мовай**

Грамадзянам Беларускай ССР гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права выбіраць мову звароту ў дзяржаўныя, партыйныя органы, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі.

Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай мове ці, па жаданню грамадзяніна, у перакладзе на рускую мову.

**Артыкул 4. Абарона моў**

Усякія прывілеі ці абмежаванне правоў асобы па моўных прыметах недапушчальныя.

Публічная знявага, ганьбаванне дзяржаўнай і ўсякай іншай мовы, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, прапаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць за сабой устаноўленую законам адказнасць.

**Артыкул 5. Арганізацыя выканання Закона аб мовах у Беларускай ССР**

Арганізацыя выканання Закона аб мовах у Беларускай ССР ускладаецца на Савет Міністраў Беларускай ССР і Саветы народных дэпутатаў.

Кантроль за выкананнем Закона аб мовах у Беларускай ССР ускладаецца на Камісію па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР.

**Артыкул 6. Абавязак адказных асоб, іншых работнікаў дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі**

Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных устаноў, партыйных, савецкіх, прафсаюзных органаў, грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў.

Органы дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання, а таксама ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай або рускай мове; да дакументаў, якія падаюцца на іншых мовах, павінны быць далучаны пераклад на беларускую ці рускую мову, завераны натарыусам ці ў адпаведнай арганізацыі. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох—пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

## II. Мова дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый

**Артыкул 7. Мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання**

Акты вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца на беларускай мове і друкуюцца на беларускай і рускай мовах.

Акты міністэрстваў і ведамстваў, мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца і друкуюцца на беларускай мове, а пры неабходнасці—і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый у Беларускай ССР выконваюцца на беларускай мове, а пры неабходнасці — на беларускай і рускай або іншай мове. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох—пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 8. Мова справаводства і дакументацыі**

У Беларускай ССР мовай справаводства і дакументацыі, а таксама мовай узаемаадносін дзяржаўных, партыйных органаў, устаноў і грамадскіх арганізацый з'яўляецца беларуская мова. Мовай справаводства і дакументацыі на прадпрыемствах (у тым ліку — саюзнага падпарадкавання) з'яўляецца беларуская мова, а пры неабходнасці — руская. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 9. Мова ўзаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых органаў з саюзнымі органамі і органамі іншых рэспублік**

Мовай узаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый з саюзнымі органамі з'яўляецца руская мова.

Мовай узаемаадносін вышэйназваных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый з органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі іншых саюзных рэспублік з'яўляецца руская мова або прымальная для бакоў мова.

**Артыкул 10. Мова тэхнічнай і праектнай дакументацыі**

Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Беларускай ССР рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэння — на іншай мове. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 11. Мова дакументаў аб статусе грамадзян Беларускай ССР**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, — пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы выконваюцца на беларускай і рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці — на беларускай і іншай мовах. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 12. Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў**

У Беларускай ССР рабочай мовай з'ездаў, сесій, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў, нарад, іншых сходаў з'яўляецца беларуская мова.

Рабочай мовай міжрэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных форумаў, якія праводзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР, з'яўляецца мова, вызначаная ўдзельнікамі форуму.

Удзельнікам мясцовых, рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных форумаў гарантуецца права выбіраць мову выступленняў з забеспячэннем перакладу на рабочую мову адпаведнага форуму. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох—пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 13. Мова дакументаў па выбарах народных дэпутатаў**

Дакументацыя па выбарах народных дэпутатаў мясцовых, рэспубліканскіх і саюзных органаў дзяржаўнай улады афармляецца на беларускай мове.

Дакументацыя па выбарах народных дэпутатаў СССР падаецца ў Цэнтральную выбарчую камісію на рускай мове.

Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на беларускай мове, а таксама па жаданню выбаршчыкаў на нацыянальнай мове большасці насельніцтва выбарчай акругі. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 14. Мова ў сферы абслугоўвання**

На транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская мова, пры неабходнасці—іншая, прымальная для бакоў мова. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 15. Мова судаводства**

У Беларускай ССР судаводства вядзецца на беларускай мове або нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх спраў асобам, якія прымаюць удзел і не валодаюць мовай судаводства, забяспечваецца права азнаямлення з адпаведнымі матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступаць у судзе на роднай мове.

Следчыя і судовыя дакументы выдаюцца асобам, якія прымаюць удзел у справе, па іх патрабаванню, у перакладзе на родную мову або іншую мову, якой яны валодаюць. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 16. Мова разгляду спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях**

Разгляд спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях у Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове або нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Калі асоба, якая прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці, не валодае мовай, на якой вядзецца справа, яна можа выступаць на роднай мове і карыстацца дапамогай перакладчыка. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 17. Мова натарыяльнага справаводства**

Натарыяльнае справаводства ў дзяржаўных натарыяльных канторах і выканаўчых камітэтах гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў вядзецца на той мове, на якой вядзецца ў той або іншай мясцовасці судаводства.

Калі асоба, якая звярнулася ў натарыяльную кантору, не ведае мовы, на якой вядзецца справаводства, тэксты афармляемых дакументаў павінны быць таксама ў перакладзе на рускую або іншую мову. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 18. Мова вядзення арбітражных спраў**

Вядзенне арбітражных спраў з удзелам бакоў у межах Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове.

Вядзенне арбітражных спраў, у якіх удзельнічаюць бакі, што знаходзяцца на тэрыторыі іншай саюзнай рэспублікі, ажыццяўляецца на рускай мове.

Калі справы накіроўваюцца ў Дзяржаўны арбітраж СССР або ў Дзяржаўны арбітраж іншай саюзнай рэспублікі, матэрыялы, афармленыя на беларускай мове, падлягаюць перакладу на рускую мову. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 19. Мова пракурорскага нагляду**

Акты пракурорскага нагляду ў Беларускай ССР складаюцца на беларускай мове. У сувязі з ажыццяўленнем пракурорскага нагляду на гэтай мове вядзецца і перапіска з усімі ўстановамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі, размешчанымі на тэрыторыі Беларускай ССР.

У зносінах з Пракуратурай СССР і іншымі саюзнымі органамі, з органамі пракурорскага нагляду і іншымі ўстановамі саюзных рэспублік выкарыстоўваецца руская мова. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 20. Мова юрыдычнай дапамогі**

Юрыдычная дапамога грамадзянам і арганізацыям аказваецца адвакатамі на беларускай мове або на прымальнай для бакоў мове. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 21. Мова міжнародных дагавораў і пагадненняў**

Мовамі двухбаковых міжнародных дагавораў Беларускай ССР, а таксама пагаднення прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый Беларускай ССР з прадпрыемствамі, установамі і грамадскімі арганізацыямі іншых дзяржаў з'яўляецца беларуская мова і мова іншага боку дагавора або пагаднення.

## III. Мова адукацыі, навукі і культуры

**Артыкул 22. Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове**

Беларуская ССР гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Права на адукацыю на роднай мове маюць і грамадзяне іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы. Дзяржава стварае ўмовы для рэалізацыі гэтага права.

Кіраўнікі і супрацоўнікі сістэмы народнай адукацыі павінны валодаць мовай навучання, на якой працуе адпаведная ўстанова. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 23. Мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах**

У дзіцячых дашкольных установах, а таксама ў дзіцячых дамах у Беларускай ССР выхаванне вядзецца на беларускай мове.

У месцах кампактнага пасялення грамадзян іншых нацыянальнасцей могуць стварацца дзіцячыя дашкольныя ўстановы, дзе выхаванне дзяцей вядзецца на іх нацыянальнай мове.

У дзіцячых дашкольных установах пры неабходнасці могуць стварацца асобныя групы, у якіх выхаванне вядзецца на іншай мове. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 24. Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах**

У Беларускай ССР вучэбная і выхаваўчая работа ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай мове.

У месцах кампактнага пасялення грамадзян іншых нацыянальнасцей могуць стварацца агульнаадукацыйныя школы або класы, у якіх вучэбная і выхаваўчая работа вядзецца на іх нацыянальнай мове.

У агульнаадукацыйных школах пры неабходнасці могуць стварацца класы, у якіх навучанне і выхаванне вядзецца на іншай мове.

*Вывучэнне беларускай мовы ў гэтых школах абавязковае.*

Парадак вывучэння беларускай мовы вучнямі, якія часова *знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі*, вызначаецца Міністэрствам народнай адукацыі Беларускай ССР. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 25. Мова навучання ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах**

Навучанне і выхаванне ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах у Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове, а па некаторых спецыяльнасцях і прафесіях — на беларускай, рускай або іншай мове. Пералік спецыяльнасцей і прафесій, па якіх вядзецца навучанне і выхаванне, вызначаецца Саветам Міністраў Беларускай ССР.

Ва ўсіх навучальных установах Беларускай ССР з іншай мовай навучання беларуская мова вывучаецца незалежна ад ведамаснай прыналежнасці гэтых установ. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 26. Мова ў сферы навукі**

У Беларускай ССР вынікі навукова-даследчых прац афармляюцца *на беларускай мове*, а з улікам іх прызначэння — на рускай мове.

Выканаўцы навукова-даследчых прац могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 27. Мова ў сферы культуры**

У Беларускай ССР *мовай усіх* галін культуры з'яўляецца беларуская мова. Гарантуецца таксама захаванне і развіццё *культуры на мовах прадстаўнікоў* іншых народаў, што жывуць у рэспубліцы.

З мэтай шырокага азнаямлення грамадзян рэспублікі з дасягненнямі культуры народаў СССР і сусветнай культуры Беларуская ССР забяспечвае пераклад і выданне на беларускай мове мастацкай, палітычнай, навуковай, вучэбнай і іншай літаратуры, вытворчасць і паказ фільмаў і аудыявізуальных твораў. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

## IV. Мова інфармацыі і сувязі

**Артыкул 28. Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Беларускай ССР мовай пераважнай большасці афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца беларуская мова.

Мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі могуць таксама быць руская мова і мовы іншых нацыянальнасцей. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 29. Мова работы пошты і тэлеграфа**

У Беларускай ССР паштова-тэлеграфная карэспандэнцыя ад грамадзян, дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый прымаецца на беларускай або рускай мове.

*Пошта і тэлеграф забяспечваюцца* маркамі, канвертамі, паштоўкамі, бланкамі і да т. п., надпісы на якіх выконваюцца *на беларускай або* рускай мове і адпавядаюць патрабаванням сусветнай паштовай канвенцыі.

**Артыкул 30. Мова аб'яў і паведамленняў**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і да т. п. выконваюцца на беларускай мове. Побач з беларускім тэкстам можа быць змешчаны яго пераклад на іншую мову. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 31. Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі аб карыстанні таварамі, выраблены́мі ў Беларускай ССР, выконваюцца на беларускай мове.

Маркіроўка тавараў на вываз за межы Беларускай ССР выконваецца на беларускай, рускай мове або на мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках падаюцца на беларускай мове. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

## V. Мова найменняў

**Артыкул 32. Мова найменняў дзяржаўных, партыйных органаў і грамадскіх арганізацый**

Афіцыйныя найменні дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, установ, грамадскіх арганізацый даюцца на беларускай мове. З правага боку (або знізу) гэтыя найменні могуць давацца пры неабходнасці ў перакладзе на рускую або іншую мову шрыфтам не большым за беларускі.

**Артыкул 33. Мова тапонімаў і картаграфічных выданняў**

У Беларускай ССР тапонімы (назвы населеных пунктаў, адміністрацыйна - тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і да т. п.) даюцца на беларускай мове.

Тапонімы з-за межаў Беларускай ССР даюцца на беларускай мове адпаведна традыцыі, а новыя — у *транскрыпцыі* з мовы арыгінала.

Картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Беларускай ССР, *рыхтуюцца* і друкуюцца на беларускай мове. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

**Артыкул 34. Мова асабовых імён**

Беларускія асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца адпаведна нацыянальнай іменаслоўнай традыцыі і законам беларускай мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай мове адпаведна правілам перадачы іншамоўных уласных імён. (Уводзіцца ў дзеянне на працягу трох гадоў з моманту ўступлення закона ў сілу).

## VI. Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць за межамі Беларускай ССР

**Артыкул 35.** Беларуская ССР на аснове пагадненняў з іншымі саюзнымі рэспублікамі садзейнічае нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць у гэтых рэспубліках.

Беларуская ССР адпаведна нормам міжнароднага права аказвае ўсебаковую дапамогу адукацыйным школам, навуковым установам, нацыянальна-культурным таварыствам беларусаў, асобам беларускага паходжання, якія жывуць у замежных краінах, у вывучэнні беларускай мовы і правядзенні навуковых даследаванняў па беларусазнаўству, садзейнічае навучанню асоб беларускага паходжання ў навучальных установах Беларускай ССР.

# КАЛІ ЗАГАВОРЫЦЬ ШКОЛА...

**Прачытаўшы праект Закона об мовах**

У ЧАРГОВЫ раз гісторыя дала нам, беларусам, магчымасць пашырэння сферы ўжывання роднай мовы, развіцця нацыянальнай самасвядомасці, выхавання пачуцця нацыянальнай годнасці. *Толькі што надрукаваны* праект Закона аб мовах у Беларускай ССР. Неўзабаве будзе прыняты і сам Закон аб мовах, *і гэта, безумоўна*, зменіць да лепшага становішча з нашай беднай беларускай мовай. Так, перабудова змяніла *адносіны* да нацыянальнага пытання ў краіне і ў рэспубліцы. Але, на вялікі жаль, шмат якія жыхары Беларусі былі б не супраць, каб у моўнай сферы ўсё захоўвалася па-старому і ніякіх змен не адбывалася. Пацвярджэнне гэтаму — ліст чытача «Звязды» Л. Дуброўскага з Мастоўскага раёна, вытрымкі з якога былі надрукаваны 13.X.89 г. у падборцы журналіста В. Жданко «Пачуй таго, хто побач» і некаторыя, мякка кажучы, непераканаўчыя аргументы ў артыкуле А. Дзмітрука і А. Тозіка «Без эмоцый і ярлыкоў» («Звязда», 20.X.89).

Л. Дуброўскі сцвярджае: «Пераважная большасць насельніцтва нашай рэспублікі размаўляе на рускай мове». Згадзіцца з гэтым ніяк нельга. Большасць размаўляе на абруселай мове, на беларускім дыялекце рускай мовы, у якім рускае слова вымаўляецца па прынцыпах беларускай фанетыкі. Большасць у рэспубліцы не ведае толкам ні рускай, ні беларускай мовы. Мы ў сапраўднасці адарваліся ад беларускай мовы, а рускай так і не авалодалі, і карыстаемся беларуска-рускім слэнгам, лічачы, што гэта руская мова. Вельмі слушна пра гэта сказала чытачка *«Советской Белоруссии»* Лашчынская. Руская па нацыянальнасці, яна ўжо 15 год жыве ў Беларусі. З павагай ставіцца да беларускай мовы, а пра тую мову, на якой гаворыць большасць беларусаў і якую Л. Дуброўскі, і не толькі, вядома, ён, лічаць рускай, піша: «Это не русский язык, поверьте русскому уху».

Ведаем і верым!

«Дык па якому праву нацыяналісты з БНФ імкнуцца навязаць свае погляды, у прымусовым парадку дамагчыся, каб народ размаўляў мовай мінулага?» — пытаецца Л. Дуброўскі. Мой апанент непакоіцца, што народ будзе размаўляць мовай мінулага! Пра які народ ідзе гаворка? У БССР жывуць прадстаўнікі больш чым васьмідзесяці народаў. Хто — украінцы, палякі, яўрэі, літоўцы ці рускія — у БССР гавораць мовай мінулага? Ці, можа, беларуская мова — мова мінулага? І што гэта за новае лінгвістычнае паняцце — мова мінулага? Калі ёсць мова мінулага, то, відавочна, існуе і мова сучаснага, і мова будучага?

Л. Дуброўскі сцвярджае, што «выцясненне беларускай мовы — заканамерны працэс». А я сцвярджаю — што гэта прымусовы працэс на працягу амаль чатырох стагоддзяў то з боку польскай мовы, то з боку рускай. На якія толькі забароны не ішлі тыя, каму наша беларуская мова чамусьці замінала жыць, а народ перацярпеў і князёў, і паноў, і пілсудскіх, і сталіншчыну, і суславых. Але бясследна для нас, беларусаў, гэта не прайшло. Стагоддзямі беларусы не мелі магчымасці атрымліваць адукацыю на роднай мове, і такое становішча сфарміравала ўяўленне, што толькі польская ці толькі руская мова можа даць асвету. Не было такой *магчымасці і ў мяне, хоць я і* закончыў беларускае аддзяленне літаратурна-музычнага факультэта МПІ імя Горкага. *Якое ж гэта было беларускае* аддзяленне? А такое. З 44 дысцыплін, якія вывучаў я ў студэнцкія гады, па-беларуску выкладаліся толькі 12 прадметаў. Нават такі прадмет, як «Уводзіны ў мовазнаўства» выкладаўся на рускай мове. Выкладчыца гэтага прадмета ў час адной з лекцый на поўным сур'ёзе заявіла, што беларуская мова — не самастойная мова, а дыялект рускай мовы. І гэтаму «вучыла» яна студэнтаў беларускага аддзялення, людзей, беларуская мова для якіх — прафесія, лёс, само жыццё. На шчасце, у інстытуце былі выкладчыкі высокапрафесійныя, лекцыі якіх па беларускіх дысцыплінах помняцца і да сёння. Шчырае дзякуй тым людзям і нізкі паклон!

Але не падумайце, Л. Дуброўскі, што я лічу, быццам вы самі вінаваты ў тым, што не маеце элементарных ведаў па гісторыі беларускага народа, блытаеце элементарныя мовазнаўчыя ісціны. Не вы, а я, настаўнік, вінаваты ў тым, што ў большасці беларусаў сфарміраваны нацыянальны нігілізм, і яны, замест добрага ведання беларускай і рускай моў, дэманструюць абруселую мову — *непатрэбнае паўмоўе*, так характэрнае для нізкаадукаванага насельніцтва, якому дзесяцігоддзямі цвярдзілі, што яно ва ўсім «у всей планеты впереди», не вы і не я вінаваты ў гэтым, а тыя, хто прысвоіў сабе права ад імя народа і народаў вырашаць, што патрэбна і што не патрэбна народу і народам.

Ёсць у лісце Л. Дуброўскага словы: «Кажуць: згіне мова — згіне нацыя. Усё гэта выдумкі». Яны поўнасцю пераклікаюцца з разважаннямі кандыдата гістарычных навук А. Тозіка і кандыдата філасофскіх навук А. Дзмітрука ў артыкуле «Без эмоцый і ярлыкоў»: «Узяць, напрыклад, формулу, якая з'явілася ў апошнія гады на старонках друку: «Гіне мова, гіне культура, гіне нацыя». А ці правамерна такая катэгарычная безальтэрнатыўная формула без навуковага яе абгрунтавання».

Калі меркаванні Л. Дуброўскага могуць выклікаць толькі сумную ўсмешку, то ад слоў кандыдатаў навук ужо не да смеху, хоць сутнасць адна: у першым сцвярджэнні — «усё гэта выдумкі», у другім — «безальтэрнатыўная формула без належнага навуковага абгрунтавання».

Не магу пагадзіцца з кандыдатамі навук, бо формула «згіне мова — згіне нацыя» — бясспрэчная формула, альтэрнатывы ёй няма. Сказана ж у праекце Закона аб мовах: «Жыве мова — жыве народ». А гісторыя чалавецтва ведае не адзін выпадак, калі «згінула мова — згінула нацыя». Напомню толькі, што, як сведчыць перапіс насельніцтва 1924 г., у СССР было 191 нацыя — а сёння 104. Дзе ж астатнія мовы і нацыі? А як вы, кандыдат навук, абгрунтуеце класічны выпадак з Прусіяй? Была ж Прусія, была пруская мова, была пруская культура. Дзе ўсё гэта сёння? Хіба ў сённяшняй Германіі ёсць прусы? Не, іх няма ўжо тры стагоддзі, бо Прусія была анямечана Германіяй. Са студэнцкіх гадоў помню гістарычны факт: «*Калі апошні прускі паэт на сваёй мове* чытаў вершы, то анямечаныя прусы ў форме нямецкіх афіцэраў, стоячы на плошчы, *паказвалі на яго пальцамі і рагаталі*».

Тупасць рагатала. Тупасць рагоча і сёння. У 1987 годзе ў прадуктовым магазіне па вуліцы Акадэмічнай г. Мінска я па-беларуску папрасіў зважыць мне каўбасы — а прадаўшчыца пачала смяяцца і сказала: «Говорите нормальным языком».

Праўда, сёлета сітуацыя змянілася. І калі я па-беларуску гавару ў магазінах з прадаўцамі, то яны нават не патрабуюць з мяне пашпарт.

І зусім іншая моўная сітуацыя была ў гісторыі балгарскага народа. Прымусовае атурэчванне Балгарыі працягвалася пяць стагоддзяў. Усё балгарскае — праследавалася. Толькі ў манастырах у цяжкадаступных горных мясцінах захоўваліся балгарскія кнігі, рукапісы, ішло навучанне на балгарскай мове. Такіх *манастыроў* было крыху больш за дзесяць. А туркі вось што рабілі: забіралі ў балгарак хлопчыкаў ва ўзросце да двух гадоў, выхоўвалі іх у ваенных школах, вучылі толькі па-турэцку і потым стваралі з іх янычарскія палкі. У час сваёй турысцкай паездкі ў Балгарыю я чуў ад экскурсаводаў, што не было больш лютых ворагаў для балгараў, чым гэтыя янычары. Там, дзе пры катаванні стыла кроў у катаў-турак, не спыняліся каты-янычары. І яны, вядома ж, сцвярджалі, што турэцкая мова лепшая за балгарскую, і што балгарская мова — «мова мінулага».

Якія тут яшчэ абгрунтаванні патрэбны? Мы, беларусы, проста «яснае паняцце». Чым жа не ступені тое, што іншыя народы зведалі.

Не ідуць далей Л. Дуброўскага кандыдаты навук і ў пытаннях роднай мовы. Яны сцвярджаюць, што для іх — гэта «яснае паняцце». Чым жа незадаволены аўтары? А тым, што «на ўзроўні звычайнай свядомасці ў публіцыстыцы, у праграмах і мерапрыемствах па мове трывала ўсталёўвацца стэрэатып: для рэспублікі родная мова — значыць беларуская».

А якая ж для беларусаў мова з'яўляецца роднай, акрамя беларускай? І зусім незразумела, што не даспадобы кандыдатам навук у нязгодзе Н. С. Гілевіча з тым, што ў БССР у гарадскіх школах беларускую мову пачыналі вывучаць з другога класа. Пра гэта Ніл Гілевіч пісаў летась у «Правде», пісалі і іншыя. Напісанае падзейнічала —з гэтага года беларуская мова паўсюль вывучаецца з першага класа. Разважалі б лепш А. Дзмітрук і А. Тозік, чаму БССР, член ААН, рэспубліка, якая сама падпісала прававы акт, згодна з якім усе дзеці пачатковую адукацыю павінны атрымліваць на роднай мове, у гарадах так і не мае школ І ступені, у якіх выкладанне вялося б на беларускай мове для беларускіх дзяцей. Праўда, тыя 145 класаў з беларускай мовай навучання, якія сёлета адкрыты ў гарадскіх школах рэспублікі,— важны крок на шляху да паступовага пераводу 1—4 класаў гарадскіх школ на беларускую мову навучання для беларускіх дзетак. Чаму гісторык і філо-

**(Працяг на стар. 4).**

**Што ён патомны хлебароб.**

«Вены — гены», «лоб — хлебароб»... Плакатна. І нашто гэтая апеляцыя да «генаў»? Каму трэба пацвердзіць?

Затое сімпатычны ў адным з вершаў ветэран вайны, які «даношвае трэці пратэз», — не стогне, не падае духам.

Маральны антыпод паэта — «стабільны чалавек» (адзін з вершаў так і называецца — «Ода стабільнаму чалавеку»)— неад'емная частка сучаснай бюракратычнай машыны. Такіх «стабільных людзей» паэт сустрэў на адным з паўднёвых курортаў.

**Дваццаць чатыры дні**
**З прыемнасцю смакуюць абеды,**
**Запіваючы гутаркай**
**Аб мэтазгоднасці ўласных карэт —**
**Легкавушак.**
**Вечарам жа падшукваюць кампліменты**
**Для чужых жонак,**
**Якія, дарэчы, пярсцёнак вянчальны**
**Паспешна хаваюць у тумбачку...**

Аўтар, звяртаючыся да з'едлівай іроніі, нават сатыры, паказвае ўнутраную самазадаволенасць і адначасова духоўную спустошанасць «стабільнага чалавека».

Сімпатыі паэта, вядома, на баку *іншых людзей, якія знаходзяцца* недзе на самым нізе грамадскай лесвіцы.

**Заціснуўшы кій у руку,**
**Напоўніўшы думаю бровы,**
**штось чэрціць на жоўтым пяску**
**жанчына ў чаканні каровы.**

**На лаўцы дубовай — адна,**
**І шум не даймае ніякі.**
**Старанна стварае яна**
**адной ёй вядомыя знакі.**

Пра што яна думае — гэтая забытая ўсімі вясковая жанчына — сучасніца дваццатага стагоддзя, якое падаравала ёй такі нялёгкі лёс? Паэт выказвае на гэты конт свае здагадкі. Яны слушныя, безумоўна, але мяне асабіста найбольш уражвае сам персанаж. М. Дуксу ўдаюцца падобныя жанравыя замалёўкі, напоўненыя значным філасофскім сэнсам.

Сёлета выйшла новая кніга— «Заснежаныя ягады», вершы і паэма. Навакольная рэчаіснасць прадстае ў ёй таксама сваім будзённым бокам, як плынь штодзённага жыцця, якое аднак узята ў больш значных, істотных сваіх праявах. Таму гэты зборнік здольны расказаць пра М. Дуксу больш, чым папярэд*нія. Грунтуючыся на асабістым* вопыце, паэт імкнецца адказаць на спрадвечнае пытанне: як жыць?

Сёння многае бачыцца паэту па-іншаму. Пра гэта сведчаць вершы «Перачытваючы «Узнятую цаліну», «Першыя калгаснікі», «Сельсавецкі агент»... Яму па-ранейшаму ўласціва непаспешлівасць, некаторая замаруджанасць думкі і рытму, стрыманасць, аднак не сакрэт, што радок стаў бліжэй да праўды жыцця.

Партрэт вясковага актывіста пачатку 50-х гадоў намаляваны ў вершы «Сельсавецкі агент». Гэты «агент» нагадвае польскага сэквестратара 20—30-х гадоў. Унутраная сутнасць яго не змянілася. Апісваючы за падаткі апошнюю кароўку ў беднай шматдзетнай сям'і, гэты агент спасылаецца на дзяржаўныя інтарэсы: «Карміць дзяржаву — не тваю галоту...» «Галота» — дзеці, якія «румзаюць ля плота», застаючыся без сваёй карміцелькі. Яны для таго «агента» па-за дзяржаўнымі інтарэсамі.

Грамадзянскасць у літаратуры не можа быць без адкрыцця — сваёй тэмы, праблемы, маральнага вопыту. Да гэтага ад*крыцця наблізіўся М. Дукса* ў новай кнізе. У кароткім — на адну старонку — вершы «Бацьку» пададзены трагічны лёс беларуса ў XX стагоддзі. Дакладней кажучы — заходнебеларускі варыянт гэтага лёсу. Маладым паехаў на заробкі ў Амерыку, пасля дзесяці год працы сабраў грошы, купіў у пана зямлі (суглінак выпаў, няўдобіца), *адсяліўся на хутар*, з беднасці так і не вылузаўся, а пры новай уладзе аказаўся раскулачаны.

**Разбойны гвалт ці недарэчны лёс?**
**Ці проста плата за не тыя мары?**
**За ўсё найгорш, што ты загадку кары,**
**Як цяжкі крыж, у іншы свет панёс.**

Так заканчваецца верш. Думаецца, што сыну-паэту варта папрацаваць над гэтай загадкай, паспрабаваць разгадаць яе. Зрэшты, гэтая тэма (у сувязі, відаць, з сучаснай перабудовай) стала намецілася ў творчасці *М. Дуксы.*

Добра сказана ў новай кнізе М. Дуксы пра такую родавую чалавечую якасць, як дабрыня.

**Жыццё не можа без яе і дня,**
**век сённяшні баіцца страціць ласку.**
**Глядзіць у вочы шчыра дабрыня,**
**разбітым крылам робіць перавязку.**

Сёння ў спакойна-ўраўнаважаную паэзію М. Дуксы пранікаюць элементы публіцыстыкі («Мужчыны ў школе», «Было», «У кнігарні», «Дамок Мацея Бурачка», «Утрапенне» і інш.). Такія вершы звычайна прысвечаны нейкай актуальнай праблеме і гучаць надзённа, хаця, не ўтоім, інфармацыйны пачатак у некаторых з іх бярэ верх над паэтычным. Таму радуешся, калі раптам натрапіш на ўдалую знаходку. Пра дом Мацея Бурачка:

**За стольні вёсен засвіціўся гонт,**
**ужо з машком густым перамяшаны.**
**Не толькі даху — і людской пашаны**
**даўгачаканы наступіў рамонт.**

У вершы «Рэтраграды» аўтар выкрывае бюракратаў — праціўнікаў галоснасці і дэмакратыі. Дасталося ім і на іншых старонках кнігі. Цікавы і ў многім, безумоўна, праўдзівы партрэт сучаснага функцыянера (у аднайменным вершы), які, асвойваючы свае службовыя ролі, прымерваючы «маскі», страціў амаль сваю чалавечую сутнасць.

М. Дукса застаецца паэтам лірыка-эпічнага складу, схільным да апісальнай манеры, што ўласціва таксама і яго паэмам. Іх у яго дзве. Паэма «Сувязь» (1979) і «*Начлег на разгалістай сасне*» (1989) — два падарожжы ў маладосць, у родную вёску: «Наладжваю балючыя кантакты я па загаду памяці з былым». Паэме «Сувязь» яўна не стае праблемнасці і канфліктнасці. Яна хварэе на залішнюю апісальнасць, недахоп самастойнага погляду на рэчы. Куды цікавейшы твор — «*Начлег на разгалістай сасне*». Падзеі адбываюцца ў 1950 годзе ў былой Заходняй Беларусі. Заслуга М. Дуксы не толькі ў тым, што ён спрабуе асвятліць адну з белых плям нашай пасляваеннай гісторыі, але і ў тым, што ён намагаецца раскрыць драматычную сутнасць самой з'явы.

Такім чынам, М. Дукса, як паэт са сваім голасам, пазнаецца і ў новай сваёй кнізе. Хоць часам, не ўтоім, яго вершам усё яшчэ шкодзіць некаторая расцягненасць, недахоп тэмпераменту.

**Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ.**

---

**Але — далей, чытач, далей, бо перш чым даганяць Амерыку, трэба яе разгледзець як след — можа, зробім выснову, што і даганяць не варта!**

**Паглядзім, як там жывуць сяляне мясцовыя, фермеры па-іхняму. Ох, як кепска ім, бедакам, ох як нясоладка —«куда бы ни направился, — сведчыць аўтар, — везде рядом с красотами богатейшей природы, вместе с добротными сельскохозяйственными нивами и стадами то и дело открывалось такое кричащее разорение, такая убогость и такая нищета, что мне на память *приходили картины* сельского разора, которые были у нас в первые месяцы и годы после изгнания гитлеровских оккупантов».**

**А перад гэтым В. Панамароў піша, што занята ў сельскай гаспадарцы менш за 10 працэнтаў працаздольнага насельніцтва, але людзі гэтыя «производят столько продукции, что удовлетворяют не только внутренний рынок», але, як сціпла зазначае аўтар, «продают зерно другим государствам».**

**В. Панамароў чамусьці пасаромеўся ўдакладніць, што сярод таямнічых «других государств» першае месца займае наша з вамі краіна, якая купляе ў ЗША вось ужо 25 гадоў у сярэднім 10 млн. тон зерня штогод. Як ім там удаюцца такія фокусы — самі, небаракі, жывуць «в убогости и нищете», а кормяць паўсвета — таямніца.**

Новы нарыс — «Без сердца». «Американскиii обыватель, — даведваемся мы, — мало знаком с шедеврами мировой культуры, не знает классиков собственной американской литературы и искусства...». У нас, вядома, іншая справа — выйдзі хоць на Камароўскі рынак у Мінску, вазьмі за гузік любога стрэчнага-папярэчнага, і ён табе будзе разважаць хоць пра Бетховена, хоць пра Фолкнера, хоць пра Караткевіча! Але гэта ў нас, а там... усюды «гомосексуализм, лесбиянство, повальный грех... садизм, мазохизм, ...детская порнография... ханжество и фарисейство.. притоны разврата...» і ўвогуле «всякого рода упрощения, фокусы и выверты вроде абстракционизма и других «измов».

І гэта, сябры, усё не так сабе робіцца, гэта «американские властители... сознательно оглупляют и разлагают свой народ». І яны свайго дамагліся — амерыканцы нават усміхацца як трэба не ўмеюць — «все как-то неискренне, натянуто и ненатурально. На лицах улыбки и блистательный оскал, а в глазах холодные льдинки...» І ўвогуле — амерыканцы неверагодна скупыя, негасцінныя, да таго ж «все американцы любят хвастаться» (пра гэта нават два разы паўторана).

**То й не дзіва, што «трудно живется русским в Америке». «Большинство не прижилось, пропали». А хто ўцалеў, тыя «съездят недели на две куда-нибудь в волковысские или молодеченские края (можа, ты, чытач, лепш разбіраешся ў геаграфіі, бо я ніяк не магу ўспомніць, дзе гэта ў Расіі «волковысские и молодеченские края».—А. А.) — и потом вспоминают и рассказывают всю жизнь о тех переменах, что произошли на родине, о добротных домах и хозяйствах... невиданной для прежних лет зажиточности и, конечно же, о безоглядном родном хлебосольстве и радушии, *о легкой жизни». Што праўда,* то праўда: хлеб ды соль бадай што хутка стануць адзінымі прадуктамі, якія можна ў нас купіць без талонаў».**

**Але пра гэта нельга расказваць у Амерыцы, хто спрабуе гэта зрабіць, той «подкупленный очернитель» і «вынужден отрабатывать иудовы серебряники».**

**...Не, чытач, не ведаю, як ты, а я б не змог жыць паводле *правіл для інжынераў з «Джэнерал электрык»* — бо не магу бясконца быць уважлівым да чужой думкі, нават калі яна няправільная.**

**То скончым сваё падарожжа па кругах «капіталістычнага пекла» ды вернемся на свае «вяршыні» — разам з аўтарам. Вось як апісвае ён сваё вяртанне ў часы першых замежных камандзіровак. Выйшаў ён з сябрамі ў Брэсце з вагона, «и прямиком в буфет», а там «этакая пропасть всякой вкуснятины, и все это за какие-то считанные рубли и копейки».**

**Валянцін Панамароў нямала паездзіў за акіян, можна было б і адпачыць. Няхай чалавек больш не мучыцца па заграніцах, няхай уволю паесць «вкуснятины» з айчынных гастраномаў, няхай, нарэшце, пазбавіцца ад дыпламатычнага пашпарту, які ў ЗША «предопределяет множество всякого рода ограничений, запретов и неудобств».**

**Не ведаю, наколькі выйграе ад гэтага шаноўны аўтар, а мы — напэўна. Бо як ён зусім слушна піша ў сваёй кнізе, «Главное разделение между нами (і ЗША. — А. А.) — незнание друг друга. А где незнание — там догадки, выдумки и наветы, за которыми рукой подать до неприязни».**

**А. АБЛАЖЭЙ,**
**мастак.**

г. Вільнюс.

---

*Старонкі ўспамінаў*

# ТАКІМ ЁН ЗАПОМНІЎСЯ

Згадваецца залатая каралішчавіцкая восень 1982 года. Дом творчасці быў нешматлюдны. У тыя дні там жылі і працавалі некалькі пісьменнікаў. Сярод іх быў і Міхаіл Міхайлавіч Блісцінаў — чалавек сталага ўзросту. У той час яму было за семдзесят, але працаваў ён асабліва напружана.

Ведалі мы яшчэ адну цікавую старонку з жыцця гэтага пісьменніка. Ён нарадзіўся 19 кастрычніка 1909 года ў вёсцы Іванаўка Масальскага раёна Тульскай вобласці. Там доўгі час жылі яго бацькі, працавалі настаўнікамі ў школе. Але калі яны пераехалі ў Беларусь, іх сын Міхась з самых ранніх гадоў пачаў авалодваць беларускай мовай і вывучыў яе так, што яна стала для яго роднай.

Аднойчы вечарам Міхаіл Міхайлавіч запрасіў нас да сябе ў пакой:

— Паслухайце, браткі, што я напісаў. Прачытаю пару старонак.

І ён пачаў чытаць. Мы слухалі з асаблівай увагай і цікаўнасцю.

Гэта былі старонкі з новага рамана «Маньчжурскі арэх», прысвечанага заканчэнню другой сусветнай вайны. Аўтар апісваў падзеі, у якіх прымаў непасрэдны ўдзел. У рамане апавядалася, як нашы савецкія воіны гераічна змагаліся з японскімі захопнікамі, пра вызваленне Савецкай Арміяй Паўночна-Усходняга Кітая, ліквідацыю Квантунскай арміі, што стварала ўмовы для народна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Кітаі.

Мы ведалі, што ў Міхася Блісцінава ёсць і іншыя творы, прысвечаныя вайне, бо франтавымі дарогамі яму давялося прайсці ад пачатку да канца. У час вайны ён працаваў у штабе 53-й арміі, затым у рэдакцыі дывізійнай газеты. Заканчэнне яе сустрэў на Забайкальскім фронце. За баявыя дзеянні быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені, Чырвонай Зоркі, баявымі медалямі. Герояў вайны яму не трэба было выдумляць, яны былі побач з ім, прасіліся на старонкі кніг.

У жыцці і творчасці Міхася Блісцінава, асабліва ў ранейшыя гады, было шмат такіх момантаў, абставін, якія характэрны для многіх беларускіх пісьменнікаў тагачаснага пакалення.

Пачатак яго працоўнага жыцця звязаны з працай настаўніка, педагога. Ён атрымаў спецыяльную адукацыю спачатку ў Мінскім педтэхнікуме, затым у Вышэйшым педагагічным інстытуце. З 1928 па 1933 год працаваў вясковым настаўнікам. У той жа час пачаў і сваю літаратурную дзейнасць: напісаў і надрукаваў некалькі апавяданняў, нарысаў, п'ес — «Агні Палесся» (1931), «Мох» (1932), «Ленінцы», «Кастрычнік» (1932). П'еса «Грунт» у 1934 годзе пабачыла сцэну. Затым з'явілася аповесць «Хітрасць» (была змешчана ў альманаху «Бальшавіцкая моладзь»). Не многія з маладых пісьменнікаў мелі ў той час такую папулярнасць.

*Маладога аўтара* заўважылі ў Саюзе пісьменнікаў і запрасілі працаваць у сваё выданне. З 1933 па 1936 год ён працуе адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва», на старонках якой выступае з артыкуламі, рэцэнзіямі на кінафільмы. Ён вельмі рана пачаў захапляцца кінамастацтвам. Відаць, таму вырашыў паступіць на сцэнарны факультэт Кінаакадэміі, якая ў той час існавала ў Ленінградзе. Закончыўшы яе ў 1938 годзе, Блісцінаў вяртаецца ў Мінск і пачынае працаваць рэдактарам на кінастудыі «Савецкая Беларусь» («Беларусьфільм»). З гэтага часу яго літаратурная дзейнасць вельмі цесна і плённа звязана была на працягу многіх гадоў з беларускім кінематографам. Яго пяру належаць каля дваццаці сцэнарыяў дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. Асаблівы поспех пісьменніку прынёс сцэнарый мастацкага фільма «Строгая жанчына», які быў адзначаны прэміяй на ўсесаюзным конкурсе пры кінастудыі «Ленфільм», а затым лёг у аснову аднайменнага мастацкага фільма, які выйшаў на кінастудыі «Беларусьфільм» у 1959 годзе. Ён быў, нам здаецца, адным з першых твораў у беларускім мастацтве, якія ўздымалі надзённыя пытанні з жыцця працаўнікоў калгаснай вёскі, іх клопатаў пра зямлю, пра яе багацці. Тэма, закранутая ў ім, і сёння вельмі актуальная, цесна перакліваецца з той аграрнай праграмай, якую вырашае наш народ.

Міхась Блісцінаў плённа працаваў і ў жанры мастацкай публіцыстыкі, з'яўляўся адным з аўтараў кнігі пра рабочы калектыў Мінскага аўтамабільнага завода. У галіне мастацкага перакладу на беларускую мову з іншых моў на яго творчым рахунку раман «Пётр Першы» А. Талстога, аповесць «Крэнкебіль» А. Франса, п'есы Бр. Тур, А. Бруштэйн, В. Любімавай і іншых драматургаў.

Міхась Блісцінаў заўсёды знаходзіўся ў гушчыні жыцця. Пісьменнік-камуніст, ён прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, часта выступаў перад чытачамі і кінагледачамі, шмат паездзіў і пахадзіў па роднай зямлі, якая прыносіла яму натхненне і творчы плён. Няўдачы не аслаблялі яго волю, жаданне дасягнуць заслужанага поспеху: гэта быў чалавек мэтанакіраваны, шчыры, з добрым характарам, але неспакойнай, заўсёды ўсхваляванай душой.

Сёлета яму было б восемдзесят...

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Яфім САДОЎСКІ.**

для мяне час напісання сімфоніі ў пяці паэмах «Памяць Зямлі», якая бліскуча была Вамі выканана ў філармоніі і асабліва ў канцэртнай зале кансерваторыі.

Творы, творы... Імі папоўнілася бібліятэка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча. Сёння Вы маеце выбар, салідны багаж беларускай музыкі. Ды самае галоўнае — музыкі арыгінальнай, напісанай спецыяльна для цымбалаў з улікам асаблівасцей гэтага інструмента. А як пашырыўся іх дыяпазон — ад басовай да тэнараваальтовай і да цымбалаў-прыма! З «вечна» акампануючых альты і тэнары зрабіліся самастойнымі. Іх цудоўны тэмбр ужо не хаваецца недзе ў гушчыні аркестра, а пяе, падтрымлівае верхняму голасу, насычае яго, надаючы высакароднасць. Так, Міхал Антонавіч, менавіта пад час Вашай працы ў аркестры адбылася рэформа аркестравай тканіны. Між іншым, Вы мне адразу не сказалі, як паставіўся аркестр да «Народных гульняў» — першага майго і Вашага дзіцяці. І толькі пазней я даведаўся, што аркестранты асмяялі яго. Але менавіта дзякуючы Вашаму растлумачэнню і высокаму выканаўчаму майстэрству музыкантаў «Народныя гульні» засталіся ў рэпертуары і выконваюцца ўжо больш чым 15 гадоў! Тэрмін немалы. І калі хто сёння прыносіць свае творы ў калектыў, маючы пра партытуру ўяўленні 50-х гадоў, гадоў, калі прынцып сімфанічнай партытуры механічна перакладаўся на музыку для народнага аркестра, дык мы ўжо ведаем (дзякуючы эвалюцыі аркестра), што ў такіх выпадках заўсёды ўзнікае «каша», дзе зразумець нічога немагчыма, бо тое, што прыдатна для сімфанічнага аркестра, вельмі рэдка падыходзіць для аркестра народнага.

Звычайны Ваш стан — прыдумаць і прапанаваць кампазітару якую-небудзь мастацкую ідэю для новага твора. Вы звярталіся да кампазітараў і, зыходзячы з індывідуальных асаблівасцей кожнага, прапаноўвалі напісаць музыку на сюжэт, які самі адчувалі. Менавіта таму не было падобных паміж сабою твораў. Скажам, «Батлейка» В. Помазава і мой «Раёк» пісаліся ў адзін час, але ні ён, ні я не ўяўлялі сабе шляхоў мастацкага ўвасаблення зробленага. А В. Іваноў прынёс у аркестр «Зямлю бацькоў» — глыбока праніклёную партытуру; Д. Смольскі напісаў «Партызанскую мадонну» — своеасаблівую фрэску з хорам і цымбаламі. Вы не прымушалі кампазітараў заставацца ў нейкім адным ключы, а прапаноўвалі кожны раз нешта новае. Якім чынам Вам удавалася дамагацца адточанасці ў выкананні, бляску гучання, дынамікі — не бяруся тлумачыць. Магу толькі сказаць, што дзякуючы Вашай музыканцкай стабільнасці — дырыжора і мастака — Вы ні разу не дазволілі сабе здзелку з сумленнем і не выйшлі на сцэну з «сырым», непадрыхтаваным творам. Вы не «правальвалі» прэм'еры опусаў, і кампазітарам не даводзілася ківаць на дырыжора — маўляў, кепскае выкананне!

Вам таксама ўдалося далікатна, пазбегнуўшы крыўдаў, сабраць лепшых выканаўцаў у аркестр, выслабаніўшы яго ад музыкантаў, няздатных працаваць у духу новых творчых павеваў. Сёння ў аркестры плеяды музыкантаў-выканаўцаў самага высокага ўзроўню. Без іх цяжка ўявіць, якім чынам можна ўзнаўляць тую або іншую партытуру сучасных кампазітараў, дзе практычна рэдка ўбачыш акампанемент, г. зн. звычайную падтрымку меладычнай лініі. І аркестравыя аранжыроўшчыкі Вашага калектыву — гэта людзі вялікіх здольнасцей, яны чуйна адгукаюцца на жаданні аўтараў. Разам з Вамі яны ўтвараюць тонус аркестра, імкнуцца адысці ад трафарэтаў. Разам з аўтарскімі інструментоўкамі твораў працы аранжыроўшчыкаў і склалі палітру аркестра жыновічаўцаў з сярэдзіны 70-х да сярэдзіны 80-х гадоў. Але сёння...

Сёння я вельмі засмучаны. Засмучаны таму, што рэдка бачу Вас за дырыжорскім пультам непаўторнага аркестра — аркестра цымбалаў. Вось і ўзяўся за гэта пісьмо.

Тое, што Вы рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, — напэўна, цудоўна. Вы па-дзяржаўнаму, з усёй адказнасцю падышлі да сваёй новай пасады. Вы і ў аркестры прадаўжаеце несці ўвесь цяжар жыццёвых клопатаў. Але... Вы пакінулі сваё дзіця без «мамы і таты», і ўжо ніхто не клапоціцца пра рэпертуар, ніхто не патрабуе ад музыкантаў таго выканаўчага ўзроўню, якім зіхацеў аркестр пры Вас. Вось ужо некалькі сезонаў, як зрабілася другаснай задума нашых аўтараў. І невыпадкова ў аркестры, які вызначаўся самастойнасцю і незалежнасцю, з'явіліся новыя настроі: давайце, маўляў, іграць папулярную музыку, полечкі, танчыкі, шлягерчыкі і тады, так бы мовіць, усё будзе «для народа». Згубная, недастойная гэтага калектыву думка, якая ламае традыцыі жыновічаўцаў, зводзіць на нішто дасягненні В. Помазава, В. Іванова, Д. Смольскага, Я. Глебава, А. Багатырова, А. Друкта. Паступова кампазітары адварочваюцца ад аркестра, і толькі некаторыя прыносяць сюды свае новыя опусы з надзеяй пачуць іх у атмасферы свята. Але свята няма!

Вы, Міхал Антонавіч, канечне, ведаеце, што сказаў пра Вас М. М. Някрасаў — мастацкі кіраўнік аркестра народных інструментаў Дзяржтэлерадыё СССР, народны артыст СССР: «Мы цэнім Казінца М. перш за ўсё як дырыжора». Сёння, паглядзеўшы тэлефільм пра Вас, пра Вашы родныя Цынцавічы, я зразумеў, наколькі Вы выраслі як дырыжор і як Мастак. Для Дзяржаўнага народнага аркестра БССР, які ўзняўся на ўзровень акадэмічнага, Вы зрабілі амаль усё. Амаль—бо не знайшлі пакуль пераемніка, здатнага змяніць Вас за пультам гэтага калектыву. Вы не павінны стаяць на месцы, задавальняючыся дасягнутым. Час перадаць народны аркестр у добрыя рукі і брацца за сімфанічны. Так-так! Ваша ўпэўненае выкананне сімфанічнай музыкі падштурхнула мяне сказаць гэта. А яшчэ і выказаць парадаксальную думку: можа стацца, Міхал Казінец як энтузіяст ужо сімфанічнага аркестра сваёй выканаўчай творчасцю будзе стымуляваць стварэнне самабытнага беларускага сімфанічнага рэпертуару і гэтаксама, як пры рабоце з народным аркестрам, смела пойдзе на творчыя эксперыменты.

**Ваш Андрэй МДЗІВАНІ.**

маўку пра тое, што калі хочаш выгадаваць волата, не трэба шкадаваць палатна на пялёнкі. Школы танца, якія мы бачылі ў Шанхаі, Гуанчжоу, Пекіне, гэта цэлыя гарадкі, дзе побач з навучальнымі аўдыторыямі кампактна размешчана ўсё неабходнае для функцыянізавання школы. Асаблівым размахам у гэтым плане вылучаецца пекінская Акадэмія танца, своеасаблівы горад у горадзе, дзе ўлічана, здаецца, усё неабходнае. Тут ёсць сорак (!!!) цудоўна абсталяваных залаў са станкамі, якія мяняюць вышыню; інтэрнаты, сталовыя, майстэрні па вырабе касцюмаў і абутку (становішчу з танцавальнымі туфлямі ў Кітаі, для нас вельмі напружанаму, можна толькі пазайздросціць), стадыён, розныя падсобныя памяшканні (кошт будаўніцтва перавысіў дзесяць мільёнаў долараў). У праекце таксама — тэатральная зала на дзве тысячы месцаў і крыты басейн. Паралелі з будаўніцтвам новага памяшкання для харэаграфічнага вучылішча ў беларускай сталіцы, якое вось ужо доўгі час выпрабоўвае цярплівасць і нервы ўсіх зацікаўленых бакоў, наводзяць на сумныя разважанні. Падобную ж, як прынята гаварыць, белую зайздрасць выклікаюць і справы ў некаторых іншых галінах танцавальнага мастацтва. У Кітаі ўжо сорак гадоў таму створаны і паспяхова функцыяніруе Саюз харэографаў. Ён мае аддзяленні ва ўсіх правінцыях, два цэнтральныя выданні і больш за дзесятак рэгіянальных, што дае магчымасць апаратыўна знаёміцца як з унутранай, так і са знешняй інфармацыяй. (Ізноў параўнанне: у нас у краіне, якая, як мы яшчэ нядаўна ўпэўнена лічылі, была «наперадзе планеты ўсёй», спецыяльныя выданні па харэаграфіі практычна вычэрпваюцца часопісам «Советский балет», адзіным для ўсёй шматнацыянальнай і шматжанравай савецкай харэаграфіі).

Згадзіцеся, што пасля знаёмства толькі з гэтымі двума фактамі менш дзіўнымі падаюцца хуткія поспехі кітайскага выканаўчага мастацтва. А ёсць жа яшчэ такая якасць нацыянальнага характару, як вялікая працавітасць, такая спадчына, як старажытныя класічныя нацыянальныя і народныя танцы. Прыняўшы з рук савецкіх калег школу акадэмічнага танца, кітайскія педагогі і артысты змаглі насыціць яе сокамі сваёй пластычнай культуры, дасягнуць узроўню, уласцівага лепшым сусветным школам класічнага танца. Пра гэта сведчаць не толькі перамогі кітайскіх артыстаў на міжнародных конкурсах у Парыжы, Токіо, Варне, Маскве, дзе яны прадэманстравалі высокую культуру танца, стараннасць апрацоўкі класічных рухаў у спалучэнні з высакароднай прастатой і натуральнай зграбнасцю, але і паспяховая праца кітайскіх артыстаў і педагогаў у многіх трупах свету, прыток у кітайскія навучальныя ўстановы навучэнцаў і студэнтаў з іншых краін.

Захапленне выклікала ў мяне і праца кітайскіх даследчыкаў у галіне фальклору. Вялікія сродкі, якія былі выдзелены для гэтага ў апошнія гады Дзяржаўным Саветам, далі магчымасць у кожнай з правінцый арганізаваць спецыяльныя камісіі, паасобныя з якіх ужо скончылі палявую работу па зборы рэгіянальнага фальклору і ўзяліся за публікацыі фальклорных зборнікаў (выдадзена, як нам паведамілі, 4—5 першых тамоў). На 1989 год запланаваны таксама выхад зборніка «Музыка і харэаграфія», які ўваходзіць у 100-томную энцыклапедыю, што пачала выдавацца ў Пекіне. (Ці многія нашы рэспублікі могуць пахваліцца падобнымі публікацыямі?).

Матэрыялы фальклорных экспедыцый маглі б уліць свежую кроў у тую галіну кітайскай харэаграфіі, якую можна было б назваць народна-сцэнічнай. Існуючы паралельна з кітайскім класічным танцам, што грунтуецца на сінтэтычных традыцыях, яна абапіраецца на мясцовы рэгіянальны фальклор. У калектывах народнага танца ў Гуандунскім нацыянальным ансамблі песні і танца (балетмайстар Чэн Чо), у калектывах пры шанхайскай школе танца, Пекінскім інстытуце нацыянальных меншасцей і Акадэміі танца мы бачылі нямала прывабных нумароў, створаных на гэтай аснове. І ў той жа час у некаторых пастаноўках адчуваецца занадта моцны ўплыў не толькі тэатральнага мастацтва ў цэлым, але і класічнага танца ў прыватнасці. Той ці іншы нацыянальны танец неўпрыкмет ператвараўся ў балетную варыяцыю, дзе класічныя жэсты і піруэты былі змешаны з рухамі, «пафарбаванымі» ў нацыянальны каларыт, або выкрываў расхожую схему, тыповую для сцэнічнай харэаграфіі многіх народаў. Праблема гэта сур'ёзная. Тут адбіваецца тэндэнцыя, уласцівая многім народна-сцэнічным харэаграфіям свету, якая робіць іх падобнымі адну да другой. Гэты нівеліруючы ўплыў тэатральнага мастацтва, класічнага танца дакладна праглядаецца і ў савецкай шматнацыянальнай харэаграфіі, выклікаючы трывогу як мастацтвазнаўцаў, фалькларыстаў, так і саміх танцораў. Вядома, абагульняецца і набывае высакароднасць лексіка народных скокаў, больш відавочнай і агульнадаступнай робіцца кампазіцыя, пашыраюцца тэхнічныя і выразныя магчымасці выканаўцаў. Ды ёсць і адваротны бок гэтага: нівеліроўка, а то і проста разбурэнне нацыянальнай самабытнасці, звядзенне яе да адзінага уніфікаванага стандарту. Тонкая нацыянальная субстанцыя саступае тут пад напорам больш моцнай структуры.

Сапраўды, народны танец і нясталыя спосабы навучання яму ў адпаведных установах, бывае, не здатныя канкурыраваць з апрабаванай у стагоддзях і ў пакаленнях сістэмай класічнага танца. Дрэнны стан спраў з народнай нацыянальнай харэаграфіяй у нашай краіне, крызісныя з'явы ў яе сцэнічнай інтэрпрэтацыі, вычарпанасць многіх прыёмаў мастацкай апрацоўкі танцавальнага фальклору — усё гэта прымушае больш пільна ўглядзецца ў гэтую праблему на прыкладзе і кітайскіх харэографаў, бо, як паказвае практыка, і ў нас, і ў іх дзейнічаюць адны і тыя ж законы. (Дарэчы, размаўляючы з самымі рознымі людзьмі, знаёмячыся з гісторыяй Кітая апошніх дзесяцігоддзяў праз распавяды яе сведкаў і ўдзельнікаў, мы задумваліся пра блізкасць лёсу нашых народаў. І не толькі ў галіне харэаграфіі). Прыйшоў, відаць, час, калі трэба супольна распрацоўваць нейкія ахоўныя меры, ствараць асаблівыя «пластычныя засцеражэнні», каб абараніць крохкую нацыянальную самабытнасць народных харэаграфій, каб не ператварыць іх у адзінае танцавальнае эсперанта.

Далейшае плённае развіццё кітайскай харэаграфіі наогул, як мне здаецца, будзе залежаць ад пошуку свайго ўласнага аблічча. У выканаўчым мастацтве контуры яго ўжо намечаны. У балетмайстарстве гэта, думаецца, яшчэ наперадзе. Тым не менш, інтэнсіўна вядуць пошук маладыя калектывы пры школах танца ў Шанхаі, Гуанчжоу і Пекіне, усё больш адкрытым робіцца харэаграфічнае асяроддзе для абмену інфармацыяй, вопытам, а значыць — для развіцця. Шырэюць кантакты з сусветнай харэаграфіяй. Так, у Гуанчжоу ўжо адкрылася школа мадэрн-танца, у якой амерыканскія педагогі працуюць «вахтавым метадам» па тры месяцы, змяняючы адзін аднаго і забяспечваючы ў выніку трохгадовы курс навучання. Мы былі там, калі Лукс Ховінг, адзін з вучняў Хасэ Лімона, распрацоўваў тэму «дуэт». Паказаныя студэнтамі творы былі арыгінальныя па форме, змястоўныя і, магчыма, увойдуць у рэпертуар будучай трупы, першага калектыву мадэрн-танца ў Кітаі.

Звяртае на сябе ўвагу зацікаўленасць ва ўзаемных кантактах, якую выказваюць у Кітаі замежныя харэографы. Рэгулярна, напрыклад, прыязджае сюды кіраўнік Х'юстанскага балета Бэн Сцівенсан, адбіраючы найбольш здольных маладых кітайскіх танцораў і педагогаў для далейшага навучання і забяспечваючы іх стыпендыяй і жылплошчай. На сродкі амерыканскага фонду Азіі, дарэчы, існуе і школа мадэрн-танца ў Гуанчжоу. Многія з кітайскіх артыстаў і педагогаў пасля стажыровак застаюцца на розныя тэрміны працаваць за мяжой. Павялічваецца і прыток замежных спецыялістаў. Педагогі, артысты і кіраўнічыя дзеячы культуры не раз выказвалі жаданне працаваць таксама з савецкімі харэографамі, педагогамі і балетмайстрамі, паехаць на стажыроўку ў Савецкі Саюз, прыняць у сябе савецкіх артыстаў. Думаецца, што такая палітыка «адчыненых дзвярэй» будзе садзейнічаць больш паспяховаму ўзаемнаму развіццю танцавальнага мастацтва. Тым больш, што нам ёсць чаму павучыцца ў кітайскіх харэографаў. У іх у навучальных установах прайшлі ўжо апрабацыю некаторыя з тых арганізацыйных форм, якія ў нас толькі пачынаюць укараняцца. Так, добры вынік дае падрыхтоўка асобных курсаў па заказе той ці іншай правінцыі. Набіраючы юнакоў і дзяўчат з гэтай вобласці, школа вучыць іх танцу і нярэдка дае рэпертуар для першай праграмы, складзенай з танцаў адпаведных народнасцей (іх у Кітаі 56).

Цікавым вопытам з'яўляецца і існаванне пры школе на працягу некалькіх гадоў маладых харэаграфічных калектываў, якія тым ці іншым спосабам фарміруюць з найбольш здольных выпускнікоў. Да таго часу, пакуль новы ансамбль не заваюе папулярнасць, школа дапамагае яму матэрыяльна, дае памяшканні, папаўняе рэпертуар.

Разгляду варта і ўвядзенне платы за вышэйшую адукацыю, што паўсюдна ажыццяўляецца ў Кітаі з гэтага навучальнага года. У мяне як у педагога ВНУ гэта выклікае разуменне. Маючы магчымасць неаднаразова назіраць, як студэнты многіх ці, скажам, некаторых нашых ВНУ не хочуць сур'ёзна працаваць (і працэс гэты мацнее з кожным годам), як даводзіцца з намаганнямі «ўкараняць» у іх веды, цягнуць адстаючых і «нацягваць» адзнакі, міжволі падумаеш, што сітуацыя, магчыма, змянілася б пры ўвядзенні хаця б мінімальнай платы за навучанне. Прычым, пэўнай часткі студэнтаў магла б быць дадзена магчымасць тым ці іншым спосабам (скажам, на спецыяльна выдзеленым сельскагаспадарчым участку, як гэта зроблена ва універсітэце Шэньчжэня) самім зарабіць грошы «на навуку». Здольныя ж, асабліва працавітыя і не забяспечаныя матэрыяльна маглі б і вызваляцца ад платы, і атрымліваць спецыяльныя стыпендыі, — сістэма гэта добра распрацавана ў сусветнай адукацыйнай практыцы. Вызваленыя сродкі надта спатрэбіліся б для паляпшэння ўзроўню навучальнага працэсу, аснашчэння ВНУ сучаснымі тэхнічнымі сродкамі, г. зн. для вырашэння пытанняў, набалелых для многіх нашых ВНУ. Вядома, кожнаму зразумела, што дэвальвацыю вышэйшай адукацыі як спосабу спалучэння сапраўдных ведаў не ліквідаваць толькі ўвядзеннем платнага навучання. Патрэбны цэлы комплекс прадуманых і разнастайных мер. Але паставіць і гэтае пытанне на парадак дня сёння, у час рэформы вышэйшай адукацыі, мне здаецца надта слушным.

...Я, аднак, адхілілася ад кітайскіх уражанняў. У краіне ўсё — у руху, у дынаміцы, у імкненні. Традыцыйныя для кітайскага светаўспрымання панацці гармоніі, спакою адступаюць пад націскам іншых. Калі мы ад'язджалі, галоўная вуліца Пекіна — праспект Вечнага спакою — была запруджана натоўпамі людзей, якія нешта горача абмяркоўвалі, бурліла бясконцымі шэсцямі дэманстрантаў, а на плошчы Цянь Аньмэнь, літаральна ля Брамы нябеснага спакою, размясціліся тысячы бунтоўных кітайскіх студэнтаў. Не, падумала я, углядаючыся ва ўзбуджаныя маладыя твары, гарачыя вочы, — у нашым дваццатым стагоддзі спакой нам, сапраўды, толькі сніцца.

**Юлія ЧУРКО.**

# Вяртанне «літаратурнага ўласаўца»

**Рыхтуючы да друку гэту рэцэнзію Роя Мядзведзева на першую частку кнігі «Архіпелаг ГУЛАГ», я ўспомніў пра сваю, так бы мовіць, «асабістую сустрэчу» з Салжаніцыным у студзені 1974 года. Ішла кансультацыя напярэдадні экзамена па гісторыі КПСС, які мы, студэнты другога курса Мінскага педінстытута замежных моў здавалі сакратару партарганізацыі факультэта. Ці пытанні мае не спадабаліся, ці мо хто «настукаў» (было ў нас і такое), але раптам, ужо склаўшы пажоўклыя запісы лекцый, выкладчык торкнуў пальцам:**

**— А ты, калі б яшчэ сказаў, што не можаш асуджаць Салжаніцына, бо не чытаў яго — атрымаў бы заўтра «два» і ніколі б не даведаўся за што!..**

**Свае адчуванні ў той момант я выразна памятаю дагэтуль.**

**Заставалася менш месяца да паведамлення ТАСС ад 15 лютага: «Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за сістэматычнае ўчыненне дзеянняў, якія не сумяшчальны з прыналежнасцю да грамадзянства і наносяць урон СССР, пазбаўлены грамадзянства СССР і выдвараны за межы Савецкага Саюза Салжаніцын А. І. Сям'я Салжаніцына зможа выехаць да яго, як толькі палічыць неабходным».**

**Указу (не скасаванаму і цяпер) папярэднічала традыцыйная істэрыя прэсы. Хоць «Архіпелаг ГУЛАГ» быў апублікаваны ў Парыжы толькі ў студзені 1974-га і яго не маглі ведаць у СССР, вымуштраваныя газеты дружна пачалі змяшчаць аднадушныя меркаванні рабочых і калгаснікаў. Але не толькі іх. Напрыклад, у «ЛіМе» пад агульным загалоўкам «Літаратурнаму ўласаўцу — ганьба!» К. Кірэенка паведамляў, што яму брыдка дыхаць адным паветрам з «нікчэмным прыслужнікам усіх нашых ворагаў»; кінарэжысёра І. Вейняровіча абурыла, што «вырадак і пасквілянт» яшчэ носіць гордае імя грамадзяніна нашай краіны; «як рухнула гітлераўская машына з халуямі ўласаўцамі, так сатруцца і абляючыя ворагаў зямлі нашай чорныя радкі пісаніны перакананага ўласаўца Салжаніцына», — прарочыў У. Федасеенка. Калектыўнае пісьмо беларускіх пісьменнікаў з асуджэннем Салжаніцына раней было надрукавана ў «Литературной газете».**

**Механізм, з дапамогай якога фабрыкаваўся «ўсенародны гнеў», быў, увогуле, узору 30-х гадоў. (Зараз нярэдка пытаюцца: няўжо тады нічога добрага не было?! Механізм, скажам аб'ектыўна, атрымаўся надзейны: і на паэце — Нобелеўскім лаўрэаце асечкі не даў, і пры ўводзе войск у сталіцу адной непаслухмянай брацкай дзяржавы апраўдаў сябе цалкам. А што нядаўна канфуз выйшаў, дык — загранiца вінавата, ён жа на айчыннае паліва разлічаны). Сярод аўтараў пісьмаў былі тыя, хто ахвотна і не без асабістай выгады дэманстраваў «вернасць і ідэйную чысціню»; некага даводзілася ўгаворваць, а то і пускаць у ход пагрозы і шантаж.**

**Але былі і такія, хто ўвогуле не падпісваў, аднак, тым не менш, знаходзіў сваё прозвішча ў газеце — так «запэцквалі», адсякалі ад Салжаніцына тых, каго ён паважаў, да каго ставіўся з прыхільнасцю. У калектыўным пісьме савецкіх пісьменнікаў у «Правду» (31. 08. 1973 г.) трэцім пасля Айтматава і Бондарава стаяла прозвішча Васіля Быкава. Як гэта сталася? У час выступлення перад рабочымі Магілёўскага аб'яднання «Хімвалакно» Быкава тэрмінова паклікалі да дырэктарскага тэлефона. Званілі з Масквы. Паскардзіліся, што каторы дзень не могуць яго знайсці ні ў Гродне, ні ў Мінску, пераказалі змест пратэсту супроць паводзін Сахарава і Салжаніцына, пералічылі 30 прозвішчаў падпісаўшых. Быкаў далучыцца адмовіўся. У адказ пачуў, што зняць подпіс немагчыма — занадта позна. Праз пару гадзін пісьмо ўжо чыталі ў праграме «Час», назаўтра яно было ў «Правде».**

**У ліку аўтараў пісьма ў «Праўду» можна прачытаць і прозвішча цяперашняга рэдактара «Нового мира» (дзе цяпер друкуецца «Архіпелаг ГУЛАГ») — С. Залыгіна. Нядаўна я атрымаў ліст ад Сяргея Паўлавіча, дзе ён піша: «Калі б вы пабачылі арыгінал пісьма, аб якім ідзе гаворка — Вы даведаліся б, што майго подпісу там няма». Такімі метадамі стваралася атмасфера «аднадушнага асуджэння»...**

**Таму, калі пад час нядаўняй сустрэчы з Роем Мядзведзевым (вазіў яму аўтарскія экземпляры кнігі «М. С. Хрушчоў», якую выпусціла выдавецтва «Беларусь») ён прапанаваў рэцэнзію на «Архіпелаг ГУЛАГ», мне здалося, што чытачоў «ЛіМа» зацікавіць водгук на кнігу, датаваны 1974 годам. Тады, праўда, ён не змог з'явіцца ў савецкай прэсе і быў надрукаваны ў многіх краінах Еўропы і Амерыкі. Рэцэнзія была апублікавана, пакуль Салжаніцын яшчэ жыў у Маскве і мог прачытаць яе разам з іншымі водгукамі. Яна ўвайшла ў зборнік «Жить не по лжи», складзены сябрамі Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына і выдадзены ў 1974 годзе ўжо пасля высылкі пісьменніка.**

**На пытанне — ці радыкальна адрозніваласе б рэцэнзія, калі б пісалася цяпер, Мядзведзеў рашуча адказаў: «Не».**

— Гэта кніга была па тым часе вельмі моцным ударам па сталінізму, я вырашыў адразу падтрымаць аўтара такой рэцэнзіяй. Я крытыкую яго, але мякка, без націску. Магчыма, цяпер бы я адзначыў больш памылак, напрыклад, у апісанні лагераў 30-х гадоў. Ён меркаваў па паслязаенных уражаннях і па пісьмах. Прычым, па характару Салжаніцын не вучоны, ён эмацыянальна іх успрымаў, не даследаваў па этапах развіцця. З гэтага пункту гледжання ён стаіць ніжэй Варлама Шаламава з яго чатырма серыямі апавяданняў - даследаванняў.

**З нашай размовы прывяду яшчэ тлумачэнне цяперашняга прыёму чытачамі рамана А. Салжаніцына (шкада, але факт: пра бібліятэчныя чэргі, як зусім нядаўна за «Дзецьмі Арбата», чамусьці не чуваць).**

— Ёсць кнігі «па-за часам», як «Майстар і Маргарыта»: паміж напісаннем і публікацыяй прайшло 20 гадоў, а раман зрабіў велізарнае ўражанне, карыстаецца поспехам у чытачоў і зараз. А ёсць кнігі, якія праз два дзесяцігоддзі ўжо не ўражваюць так: ну, напрыклад, «Жыццё і лёс» В. Гросмана. Калі б раман выйшаў на пачатку 60-х, гэта была б з'ява ў літаратурным і грамадскім жыцці. Тады б «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» Салжаніцына заняў бы другое месца — Гросман першы, больш глыбока і шырока асвятліў гэту тэму. «Адзін дзень...» меў велізарны поспех таму, што гэта была першая лагерная аповесць. У 1974 годзе я чытаў «Архіпелаг ГУЛАГ» з найвялікшай цікавасцю. А сённяшні выхад кнігі не стаў сенсацыяй — у яе быў свой час...

**Можна не пагаджацца з гэтым вывадам, шукаць іншыя тлумачэнні. Аднак, баюся, частка чытачоў не захоча прыняць ацэнкі Р. Мядзведзева не таму, што памылковыя, а з-за іх недастатковай радыкальнасці, «залішняй лаяльнасці» — з сённяшняга пункту гледжання. Але перш чым па прыкладзе героя Ільфа і Пятрова, які сімуляваў псіхічную хваробу, крычаць «І ты, Брут, прадаўся бальшавікам!», спытайце сябе: а што я рабіў у тыя, не надта далёкія часы, калі нават не за падтрымку Салжаніцына, а за нежаданне асуджаць непрачытанае звальнялі з работы, выганялі з інстытутаў, а то і медыцынскімі сродкамі пачыналі «лячыць» падобныя «псіхічныя захворванні»?..**

**Аляксандр ЛУКАШУК.**

**Рой МЯДЗВЕДЗЕЎ**

# «ЁН ЗРАБІЎ БОЛЬШ ЗА ЛЮБОГА З НАС...»

## Пра «Архіпелаг ГУЛАГ»

У ГЭТЫМ артыкуле я паспрабаваў выказаць толькі кароткае папярэдняе меркаванне пра новую кнігу А. І. Салжаніцына. І не толькі таму, што з трох тамоў аўтар апублікаваў толькі першы. Ужо апублікаванае вельмі значнае, каб ахапіць і ацаніць яго адразу. Кніга Салжаніцына гранічна напоўнена страшнымі фактамі, і шмат меншая колькасць якіх з цяжкасцю ўкладваецца ў галаве. У ёй — канкрэтнае апісанне незвычайных і трагічных лёсаў соцень людзей, такіх тыповых, аднак, для мінулых дзесяцігоддзяў. Гэтая кніга поўная думак і назіранняў, як глыбокіх і дакладных, так і не заўсёды правільных, але што нарадзіліся ў жахлівых пакутах дзесяткаў мільёнаў людзей, пакутах, якіх яшчэ не перажываў наш народ за ўсю сваю шматвяковую гісторыю. Ніхто не выходзіў са страшэннага «Архіпелага» сталінскіх лагераў і турмаў такім, якім ён уваходзіў туды, і не толькі па ўзросту і здароўю, але і па сваіх уяўленнях аб жыцці і людзях. Думаю, мала хто ўстане з-за стала, прачытаўшы гэтую кнігу, такім жа, якім ён раскрыў яе першую старонку. У гэтых адносінах мне проста няма з чым параўнаць кнігу Салжаніцына ні ў рускай, ні ў сусветнай літаратуры.

### Пра факты, што закладзены ў аснове аповяду

Нехта І. Салаўёў піша ў «Правде» (14/1)*, што факты, пададзеныя ў кнізе Салжаніцына, недакладныя, што яны плён хваравітага ўяўлення або цынічнай фальсіфікацыі аўтара. Гэта, вядома, не так. Я не магу пагадзіцца з многімі ацэнкамі і вывадамі Салжаніцына. Але трэба цвёрда сказаць, што ўсе асноўныя факты, змешчаныя ў яго кнізе, а тым больш усе падрабязнасці жыцця і пакут зняволеных ад іх арышту і да смерці (а ў больш рэдкіх выпадках — да выхаду на волю) цалкам праўдзівыя.

Вядома, у такім вялікім мастацкім даследаванні, якое заснавана не толькі на назіраннях самога аўтара, але і на сведчаннях і расказах (і пераказах) больш чым 200 былых зняволеных, непазбежна сустракаюцца некаторыя недакладнасці, тым больш што Салжаніцын вымушаны быў ствараць сваю кнігу ў глыбокай тайне і не меў магчымасці абмеркаваць яе да публікацыі нават з многімі з блізкіх сяброў. Але гэтых недакладнасцей вельмі мала для такой значнай кнігі. Я думаю, напрыклад, што размеры высяленняў з Ленінграда («кіраўскі паток») ў 1934—1935 гадах былі меншыя, чым указвае Салжаніцын. Былі выселены дзесяткі тысяч людзей, але не чвэрць насельніцтва гэтага ўжо тады двухмільённага горада. Але і ў мяне няма дакладных лічбаў, я кіруюся толькі адрывачнымі сведчаннямі і ўласнымі ўражаннямі (я жыў у Ленінградзе больш як 15 гадоў). Цяжка паверыць у расказ невядомага інфарматара Салжаніцына аб звычаі Арджанікідзе размаўляць са старымі інжынерамі пры двух пісталетах, што ляжалі справа і злева на пісьмовым стале. Каб вылоўліваць чыноўнікаў старога царскага апарату (і не ўсіх зусім, а галоўным чынам з судовых органаў, жандармерыі і да т. п.), ГПУ не патрабавалася карыстацца нейкімі запісамі выпадковых людзей: адпаведныя спісы можна было знайсці і ў мясцовых архівах, і ў апублікаваных даведніках. Думаю, што Салжаніцын перабольшвае лічбу сялян, выселеных у гады калектывізацыі (15 мільёнаў). Але калі дадаць да ахвяр гэтых гадоў і сялян, якія памерлі ад голаду ў 1932—1933 гадах (толькі на Украіне не менш як 3—4 мільёны чалавек), дык можа атрымацца лічба і большая за тую, якую называе Салжаніцын. Пасля смерці Сталіна былі пасаджаны ў турму або расстраляны (у многіх выпадках без адкрытага суда) не дзесяць, а штосьці каля сотні адказных работнікаў МДБ-МУС. Але гэта ўсё роўна нішто ў параўнанні з колькасцю злачынцаў з «Органаў», якія засталіся на волі і нават атрымалі розныя адказныя пасады або буйныя і ганаровыя пенсіі. Бухарын у 1936—1937 гадах не быў ужо членам Палітбюро, як піша Салжаніцын, а толькі кандыдатам у члены ЦК. У фразе аб тым, што кроў штрафных рот была «цэментам фундамента Сталінградскай перамогі», Салжаніцын яўна прапусціў невялікае слова «таксама».

Але ўсе гэтыя і некаторыя іншыя недакладнасці неістотныя для такога грандыёзнага мастацкага даследавання, якое правёў Салжаніцын. З іншага боку, у кнізе Салжаніцына ёсць і іншыя «пралікі», пра якія ён сам піша ў Пасвячэнні: ён не ўсё ўбачыў, не ўсё ўспомніў, не аб усім здагадаўся. Ён піша, напрыклад, пра арышт амніціраваных і рэпатрыіраваных казакаў у канцы 20-х гадоў. А была яшчэ страшная па сваіх выніках кампанія «расказачвання» і масавага тэрору на Доне і Урале ў зіму і вясну 1919 года. Гэтая кампанія працягвалася «ўсяго» два з лішнім месяцы, але зацягнула грамадзянскую вайну з усімі яе эксцэсамі не менш чым на год, даўшы белым арміям дзесяткі новых конных палкоў. А расстрэл 500 заложнікаў у Петраградзе, пра які ў «Еженедельнике ВЧК» гаворыцца ўсяго ў двух радках... Каб усё гэта апісаць, патрэбна яшчэ шмат кніг. Я веру — яны будуць напісаны.

Калі «Правда» спрабуе даказаць, што факты, прыведзеныя Салжаніцыным, недакладныя, то «Литературная газета» (16/1) спрабуе пераканаць сваіх чытачоў, што ў кнізе Салжаніцына не змяшчаецца нічога новага. І гэта няправільна. Хоць я займаюся вывучэннем сталінізму больш за дзесяць год, я знайшоў у кнізе Салжаніцына шмат для сябе невядомага. Калі не гаварыць пра старых лагернікаў, дык савецкаму чалавеку, нават які добра памятае яшчэ XX і XXII з'езды КПСС, наўрад ці вядома дзесятая частка фактаў, пра якія піша Салжаніцын. А моладзь, бадай, не ведае і сотай часткі гэтых фактаў.

### Пра ўласаўцаў

Многія газеты пішуць, што Салжаніцын апраўдвае, абяляе і нават апявае ўласаўцаў.

Гэта свядомае і зламыснае скажэнне. Салжаніцын піша ў «Архіпелагу», што ўласаўцы сталі вартымі жалю наймітамі гітлераўцаў, што «ўласаўцаў можна судзіць за здраду», што яны ўзялі зброю ворага і, трапляючы на фронт, змагаліся з адчаем асуджаных. Сам Салжаніцын са сваёй батарэяй быў ледзь не знішчаны ва Усходняй Прусіі агнём уласаўцаў і іншых да іх падобных падраздзяленняў фашысцкай арміі.

У шматлікіх «патоках» сталінскіх рэпрэсій у многіх з нас ёсць і свае асаблівыя трагедыі. Я ведаю, напрыклад, што для А. Твардоўскага гэта было «раскулачванне», пад якое трапіў і яго бацька, селянін з беднякоў, нядаўні баец Чырвонай Арміі, абаронца Савецкай улады. Ён быў выселены за Урал з усёй сям'ёй, выпадкова выжыў толькі яго сярэдні сын, які пайшоў вучыцца ў горад, — будучы наш вялікі паэт. І даводзілася Твардоўскаму тады адмаўляцца ад бацькі. Пра ўсё гэта ён піша ў сваёй апошняй паэме «Па праву памяці».

Для маёй сям'і трагедыяй сталі рэпрэсіі 1937—1938 гадоў, асабліва сярод камандзіраў і камісараў Чырвонай Арміі, у ліку апошніх быў арыштаваны і загінуў мой бацька, дывізійны камісар і выкладчык Ваенна-палітычнай акадэміі РКЧА. Гэта былі людзі бясконца адданыя Савецкай уладзе, сацыялізму і бальшавіцкай партыі, як удзельнікі грамадзянскай вайны, яны здаваліся мне рамантычнымі героямі, і я ніколі не верыў, што яны — «ворагі народа».

Для Салжаніцына такой глыбока асабістай трагедыяй стаў не яго ўласны арышт, а жорсткі і страшны лёс мільёнаў савецкіх ваеннапалонных, равеснікаў Кастрычніка, якія складалі ў чэрвені 1941 года большую частку нашай кадравай арміі. Гэта армія была разбіта і акружана ў першыя дні і тыдні вайны з-за злачынных пралікаў Сталіна, які не змог падрыхтаваць ні армію, ні краіну да вайны, з-за недарэчных і неразумных распараджэнняў Сталіна ў першы ж дзень вайны, з-за таго, што ён пакінуў сваю пасаду ў першы тыдзень вайны, з-за недахопу ў арміі вопытных камандзіраў і камісараў, знішчаных Сталіным. Каля трох мільёнаў салдат і камандзіраў трапілі тады ў палон і яшчэ каля мільёна пазней — у «катлах» пад Вязьмай, пад Харкавам, на Керчанскім паўвостраве, пад Волхавам. Але ўрад Сталіна здрадзіў сваім салдатам і ў палоне, адмовіўшыся прызнаць подпіс Расіі пад міжнароднай канвенцыяй аб ваеннапалонных, з-за чаго не ішла дапамога савецкім палонным (і толькі ім) праз Міжнародны Чырвоны Крыж, і наканавана ім было паміраць ад голаду ў германскіх канцлагерах. І яшчэ раз здрадзіў Сталін тым, хто выжыў з гэтых палонных, калі пасля перамогі амаль усе яны былі арыштаваны і папоўнілі насельніцтва «Архіпелага ГУЛАГ».

Гэта трайная здрада сваім жа воінам, лічыць Салжаніцын, самае цяжкае і гнюснае злачынства сталінскага рэжыму, небывалае за ўсю гісторыю нашага тысячагадовага дзяржаўнага існавання. «Я адчуў, — піша Салжаніцын, — што гэта гісторыя некалькіх мільёнаў рускіх палонных прашывае мяне назаўсёды, як шпілька прусака».

Толькі дзесятая частка палонных завербавалася ва ўласаўскія часці, у паліцэйскія падраздзяленні, у рабочыя батальёны, у атрады «добраахвотных» памочнікаў вермахта. Большасць завербаваных шчыра спадзявалася, падкарміўшыся і атрымаўшы зброю, перайсці на бок Савецкай Арміі або да партызан. Гэта былі, як хутка высветлілася, марныя спадзяванні, магчымасцей да такога пераходу было вельмі мала.

Салжаніцын не апраўдвае і не апявае гэтых страціўшых надзею і няшчасных людзей. Але ён просіць суд нашчадкаў улічыць і некаторыя абставіны, што змякчаюць іх віну. Гэтыя маладыя і часта не надта адукаваныя, у большасці сваёй вясковыя хлопцы былі дэмаралізаваны паражэннем арміі, ім гаварылі ў палоне, што «Сталін ад вас адмовіўся», што «Сталіну на вас напляваць», і яны добра бачылі, што гэта так і ёсць і што іх чакае галодная смерць у нямецкім лагеры.

Вядома, не ва ўсім можна пагадзіцца і з Салжаніцыным. Я не адчуваю, напрыклад, ніякага жалю да нейкага Юрыя Е., савецкага афіцэра, які, па расказу Салжаніцына, не галадаў у лагеры і перайшоў на бок гітлераўцаў зусім свядома, стаў нямецкім афіцэрам і нават узначаліў школу разведчыкаў. З кнігі Салжаніцына відаць, што гэты Юрый Е. перайшоў на бок Савецкай Арміі, ужо бачачы поўны разгром немцаў, і не столькі таму, што «Радзіма яго паклікала», а разлічваючы перадаць нашай разведцы «сакрэты нямецкай разведкі», г. зн. фактычна паравербавацца з нямецкай разведкі ў савецкае МДБ. Ды яшчэ ўпэўнены гэты Юрый, што вайна СССР з саюзнікамі ўспыхне адразу ж пасля разгрому Германіі і што Чырвоная Армія ў гэтай вайне пацерпіць хуткае паражэнне.

(Працяг на стар. 14—15).

* Усе даты па публікацыях 1974 года.

# «ЁН ЗРАБІЎ БОЛЬШ ЗА ЛЮБОГА З НАС...»

**(Пачатак на стар. 13).**

Што тычыцца жорсткай бітвы пад Прагай некалькіх буйных уласаўскіх падраздзяленняў з нямецкімі часцямі эсэсаўскага генерала Штэйнера, дык гэта гістарычны факт, які нельга адмаўляць. Што было, тое было.

Амаль усе «ўласаўцы» атрымалі 25 гадоў лагераў, іх не закранула ніводная амністыя і амаль усе яны загінулі ў няволі і ў ссылцы на Поўначы. Я таксама думаю, што для большасці з іх гэта вельмі цяжкая кара. Бо Сталін вінаваты ў гэтай трагедыі значна больш, чым хто-небудзь іншы.

## Пра «лібералізм» гітлераўцаў і рускага царызму

Абвінавачваюць Салжаніцына і ў тым, што ён прыменшвае злачынствы гітлераўцаў і жорсткасць рускага царызму.

Вывучэнне нямецкага «Архіпелага ГУЛАГ» не ўваходзіла ў задачу Салжаніцына, хоць ён і гаворыць у шэрагу выпадкаў аб катаваннях у гестапа і аб бесчалавечным абыходжанні фашыстаў з савецкімі ваеннапалоннымі. Але Салжаніцын, сапраўды, нікольні не адступае ад ісціны, калі піша, што Сталін пачаў масавыя рэпрэсіі, мільённыя дэпартацыі і катаванні, фальсіфікаваныя працэсы задоўга да таго, як Гітлер прыйшоў да ўлады. І ўсё гэта працягвалася ў нас яшчэ праз шмат гадоў пасля разгрому германскага фашызму.

Тым больш рускім царам у гэтых адносінах цяжка параўнацца са Сталіным. Пра царскую турму і катаргу Салжаніцын нямала гаворыць у сваёй кнізе, гэта была частая тэма размоў паміж зняволенымі, асабліва, калі сярод іх быў стары бальшавік (зняволеныя з іншых сацыялістычных партый амаль усе вымерлі яшчэ да вайны). У гэтых размовах старая турма або ссылка ўяўляліся зняволеным 40-х гадоў чымсьці накшталт дома адпачынку. Ды і размах рэпрэсій... У гады рэвалюцыі (1905—1907 гг.) і ў гады наступнай рэакцыі царскія каты расстрэльвалі за год столькі ж рабочых, сялян і салдат, колькі ў 1937—1938 гадах расстрэльвалася ў нашай краіне або памірала вязняў у лагерах і турмах на працягу аднаго дня. Што ўжо тут параўноўваць!

## Лепшы раздзел кнігі

Я думаю, што на розных людзей у кнізе Салжаніцына зробяць найбольшае ўражанне розныя раздзелы. Для мяне былі асабліва важныя раздзелы «Блакітныя канты» і «Да вышэйшай меры». Тут аўтар дасягае выключнай глыбіні ў псіхалагічным аналізе паводзін і турэмшчыкаў, і іх ахвяр. Салжаніцын ідзе тут глыбей, чым Дастаеўскі.

Я зусім не хачу сказаць гэтым, што Салжаніцын больш геніяльны мастак, чым Дастаеўскі. Я не літаратуразнаўца. Але відавочна, што сталінскія турмы і лагеры, этапы і перасяленні, якія Салжаніцын прайшоў праз сто гадоў пасля арышту і катаргі Дастаеўскага, далі аўтару «Архіпелаг ГУЛАГ» у дзесяткі разоў большыя магчымасці даследавання розных форм і відаў разбэшчвання чалавека злом і насіллем, чым меў аўтар «Запісак з Мёртвага дома». І, вядома, Салжаніцын выкарыстаў гэтыя трагічныя магчымасці так, як гэта мог зрабіць толькі вялікі пісьменнік.

## Пра Сталіна

У кнізе Салжаніцына ў розных месцах змяшчаецца нямала глыбокіх і дакладных, але выказаных як бы мімаходзь характарыстык Сталіна і заўваг пра яго асобу. Аўтар лічыць, аднак, асабістую ролю Сталіна ў напаткаўшай нашу краіну катастрофе і нават у стварэнні вывучаемага Салжаніцыным «Архіпелага» настолькі нязначнай, што большая частка яго выказванняў пра Сталіна выносіцца з асноўнага тэксту кнігі ў кароткія зноскі і заўвагі. Так, у заўвагах на перадапошняй старонцы тома Салжаніцын піша: «І ў перадтурэмныя і турэмныя гады я таксама доўга лічыў, што Сталін надаў фатальны напрамак ходу савецкай дзяржаўнасці. Але вось Сталін ціха памёр — і ўжо ці так шмат змяніўся курс карабля? Які адбітак уласны, асабісты ён надаў падзеям — гэта змрочную тупасць, самадурства, самаўхваленне. А ў астатнім ён дакладна ішоў следам ва ўказаны след».

Гаворачы вельмі коратка ў другім раздзеле аб рэпрэсіях 1937—1938 гадоў (навошта гаварыць падрабязна аб тым, «што ўжо шырока напісана і яшчэ будзе шматразова паўторана»), калі ў засценках НКУС былі знішчаны асноўныя кадры партыйнага кіраўніцтва, партыйнай інтэлігенцыі, каманднага і палітычнага складу Чырвонай Арміі, большасць буйнейшых гаспадарчых кіраўнікоў, кіраўнікі камсамола, калі змяніліся гвалтоўным чынам вярхі савецкага кіравання, вярхі самога НКУС, дыпламатычнага апарату і г. д., Салжаніцын піша (зноў у заўвазе): «Цяпер, бачачы кітайскую культурную рэвалюцыю (таксама на 17-м годзе пасля канчатковай перамогі), мы можам з большай верагоднасцю западозрыць тут гістарычную заканамернасць. І нават сам Сталін пачынае здавацца толькі сляпой і павярхоўнай сілай».

З такім поглядам на ролю і значэнне Сталіна ў трагедыі 30-х гадоў пагадзіцца цяжка. Вядома, было б памылковым цалкам адрываць эпоху сталінскага тэрору ад папярэдняй рэвалюцыйнай эпохі. Нейкай карэннай, рэзка акрэсленай мяжы паміж гэтымі эпохамі не было ні ў 1937 годзе, як думаюць многія, ні ў 1934 годзе, як сцвярджаў Хрушчоў, ні ў 1929 годзе, як гэта думаў раней сам Салжаніцын, ні ў 1924 годзе, калі памёр Ленін і была разбіта трацкісцкая апазіцыя, ні ў 1922 годзе, калі Сталін быў выбраны Генсекам ЦК РКП(б). І разам з тым у кожны з гэтых гадоў, ды і ў некаторыя іншыя адбываўся ўсё ж вельмі істотны паварот у палітыцы, што патрабуе асаблівага разгляду.

Вядома ж, існуе пераемная сувязь паміж той партыяй, якая ўзяла ўладу ў кастрычніку 1917 года, і той, якая стаяла на чале СССР у 1937 годзе, у 1947 годзе, у 1957 годзе і ў 1967 годзе, калі Салжаніцын заканчваў «Архіпелаг ГУЛАГ». Але гэтая сувязь не азначае ідэнтычнасці або «гарманічнага развіцця». Не «след у след» ішоў Сталін. Ён і першыя гады рэвалюцыі не заўсёды прытрымліваўся ленінскага «следу». А ўжо потым ён з кожным годам адводзіў партыю ў іншы бок. Знешняе падабенства ў дадзеным выпадку толькі маскіруе вельмі вялікае знешняе адрозненне, у некаторых адносінах нават процілегласць, і пераход у гэтую процілегласць, зусім не быў заканамерны, дэтэрмінаваны, непазбежны. Больш глыбокі навуковы аналіз, які, несумненна, будзе нададзены падзеям, прыведзеным у сваім мастацкім даследаванні Салжаніцыным, неаспрэчна пакажа, што нават унутры і ў рамках той сістэмы партыйных, дзяржаўных і грамадскіх адносін, якая была створана ў Расіі пры Леніне, Сталін зрабіў за некалькі прыёмаў карэнны пераварот, захаваўшы толькі знешнюю абалонку так званых ленінскіх норм, толькі тэрміналогію марксізму-ленінізму. Сталінізм у многіх адносінах ёсць адмаўленне і крывавае знішчэнне бальшавізму і ўсіх рэвалюцыйных сіл. У пэўным сэнсе сталінізм — гэта самая сапраўдная контррэвалюцыя. Зразумела, мы зусім не лічым, што сістэма, створаная ў першыя гады Савецкай улады, была верхам дасканаласці, і што ленінская спадчына і ленінскі перыяд у гісторыі нашай рэвалюцыі не мае патрэбы ў самым сур'ёзным крытычным аналізе.

Салжаніцын не ставіць сваёй задачай даследаваць феномен сталінізму, яго прыроду, асаблівасці, гісторыю яго развіцця, яго перадумовы. Відаць, для Салжаніцына проста не існуе такога паняцця, як сталінізм, бо Сталін толькі «дакладна ішоў следам ва ўказаны след».

У кнізе Салжаніцына амаль няма таго, што можна было б назваць гістарычным фонам. Гэтая кніга пачынаецца раздзелам «Арышт», чым аўтар адразу падкрэслівае, што ён даследуе і апісвае толькі свет зняволеных, свет адрынутых, таямнічую і страшэнную краіну ГУЛАГ, яе геаграфію, структуру, грамадскую будову, яе пісаныя і няпісаныя законы, яе насельніцтва, яе норавы, яе ўладароў і яе падданых. Ды і не вельмі патрэбны Салжаніцыну гэты гістарычны фон, бо, па ўяўленнях Салжаніцына, «Архіпелаг ГУЛАГ» з'явіўся яшчэ ў 1918 годзе і развіваўся з таго часу па нейкіх сваіх унутраных законах.

Гэта аднабаковасць, што парушалася, праўда, асобнымі, нярэдка вельмі глыбокімі па думцы заўвагамі, захоўваецца на працягу ўсяго тома. Вядома, такі падыход — законнае права аўтара.

І ўсё ж не кажучы ні слова пра сталінізм і як бы адмаўляючы правамернасць такога паняцця наогул, Салжаніцын сваім мастацкім даследаваннем адной з самых галоўных частак сталінскай сістэмы вельмі дапамагае вывучэнню і ўсёй злачыннай і бесчалавечнай сістэмы сталінізму. Салжаніцын памыляецца, мяркуючы, што гэта сістэма захавалася ў сваіх асноўных рысах і сёння, але яна і не знікла яшчэ зусім з нашага грамадскага, палітычнага і духоўнага жыцця. Кніга Салжаніцына наносіць па сталінізму і неасталінізму ўдар вельмі вялікай сілы. Ніхто з нас не зрабіў у гэтых адносінах больш, чым Салжаніцын.

## Пра Леніна

Яшчэ ў час сваёй камсамольскай маладосці Салжаніцын сумняваўся ў мудрасці і сумленнасці Сталіна. Гэта сумненне, выказанае ў адным з пісьмаў з фронту, і было прычынай арышту і асуджэння капітана Савецкай Арміі Салжаніцына ў 1945 годзе. Але ён нікольні не сумняваўся тады ў тым, што «Кастрычніцкая Рэвалюцыя была цудоўная і справядлівая і што вялі яе да перамогі людзі высокіх намераў і цалкам самаадданыя». Цяпер Салжаніцын думае інакш і пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, і пра Леніна.

З усіх абвінавачванняў, якія Салжаніцын прама ці ўскосна прад'яўляе сёння Леніну, мы спынімся толькі на двух.

Салжаніцын лічыць, што Ленін выказваўся ў 1917 годзе за правядзенне ў Расіі новай «пралетарскай і сацыялістычнай» рэвалюцыі, хоць ні Расія, ні рускі народ не былі гатовы да такой рэвалюцыі і не мелі ў ёй патрэбы.

Салжаніцын таксама лічыць, што Ленін злоўжываў тэрарыстычнымі метадамі барацьбы супраць палітычных праціўнікаў.

Лёгка разбіраць памылкі рэвалюцыянера праз 50 гадоў пасля рэвалюцыі.

Але рэвалюцыйная сітуацыя звычайна не дае палітычным правадырам часу для спакойнага акадэмічнага аналізу. Між іншым, і зараз можна меркаваць, што калі б расійскія буржуазныя партыі былі здольныя ажыццявіць у 1917 годзе хоць бы ўласныя буржуазна-дэмакратычныя задачы (і вывесці Расію з вайны), дык народ не пайшоў бы тады на новую рэвалюцыю. Але руская буржуазія па баязлівасці і карыслівасці не змагла вырашыць гэтыя такія наспеўшыя праблемы, гэтыя праблемы ўзяліся вырашыць бальшавікі на чале з Леніным, і рускі народ, як паказала гісторыя, іх тады падтрымаў.

Крайне складанае пытанне аб метадах рэвалюцыйнай барацьбы. Бо першая сацыялістычная рэвалюцыя — гэта непазбежна крок у невядомае. Яе няма з чым параўнаць, і яе правадырам няма ў каго пераймаць вопыт. Тут немагчыма ўсё загадзя разлічыць, узважыць і толькі затым прымаць рашэнні. Прадбачыць падзеі можна часцей за ўсё на некалькі дзён або тыдняў наперад. Асноўныя рашэнні і метады рэвалюцыйнай барацьбы прымаюцца або карэкціруюцца толькі ў ходзе падзей. Ленін добра гэта разумеў і нярэдка паўтараў словы Напалеона: «спачатку распачаць бой, а там паглядзім». Такая рэвалюцыя немагчымая без рызыкі, без рызыкі паражэння і без рызыкі памылак. Але і не даць сігнал да рэвалюцыі, калі яна стала магчымай, — гэта таксама вельмі вялікая рызыка для рэвалюцыйнай партыі.

Не дзіўна таму, што ў Леніна і ўзначальваемага ім Савецкага ўрада было шмат памылак і пралікаў. Гэтыя памылкі задоўжылі грамадзянскую вайну ў Расіі і зрабілі яе больш жорсткай. Гэтыя пралікі задоўжылі пераход да нэпа і ўзмацнілі на першым часе гаспадарчае разбурэнне. Не апраўдаліся і надзеі Леніна на хуткую рэвалюцыю ў Еўропе, якая дасць Расіі тэхнічную і культурную дапамогу. Савецкі ўрад пайшоў вельмі далёка ў абмежаванні дэмакратыі ў нашай краіне.

Гэты спіс пралікаў і памылак можна працягваць. Аднак ніякая кібернетыка не дапаможа даказаць, што ўзброенае паўстанне 25 кастрычніка 1917 года было гістарычна заўчасным крокам і што ўсе наступныя злачынствы сталінскага рэжыму вынікалі з гэтай фатальнай памылкі Леніна. Бо і пасля смерці Леніна шлях нашай партыі наперад быў рухам па нікім нязведанай дарозе. На жаль, тыя, хто змяніў Леніна на чале партыі, не мелі яго розуму, ведаў, умення знаходзіць у большасці цяжкіх сітуацый правільнае рашэнне. Таму яны не выкарысталі і малой часткі тых магчымасцей, якія давала Кастрычніцкая рэвалюцыя для хуткага руху наперад да сапраўды сацыялістычнага і дэмакратычнага грамадства. Мы і сёння яшчэ далёкія ад гэтай мэты. Сталін не толькі ішоў «следам у дакладна ўказаны след» (такіх «дакладна ўказаных слядоў» у гісторыі не бывае), але і тыя некалькі вехаў, што намеціў Ленін у сваіх апошніх нататках, Сталін вельмі хутка адкінуў убок.

Ва ўмовах рэвалюцыі і ва ўмовах грамадзянскай вайны ніводзін урад не мо-

**ЗАМЕСТ РЭПЛІКІ**

# ...І НІЧОГА ПАСЯРЭДЗІНЕ

**Бедны бел-чырвона-белы сцяг! Хоць і нарадзіўся ён, як сведчаць гісторыкі, у нетрах сівой мінуўшчыны, хоць і з'яўляецца параджэннем, як сведчаць зноў жа тыя гісторыкі, не толькі пэўных падзей і з'яў у мінулым народа, але і яго мастацкіх густаў, яго традыцыйных схільнасцей да пэўных колераў, да пэўнай колеравай сімволікі (возьмем той жа беларускі арнамент, бела-чырвоная палоска якога складае арганічна частку дзяржаўнага флага БССР), хоць і меў дачыненне, як гавораць зноў-такі гісторыкі, да слаўных перамог у змаганні за свабоду і незалежнасць Айчыны... Хоць гэта, можа, і так, але, тым не менш, бедны, няшчасны ён — гэты бел-чырвона-белы. «Не нарадзіся красівым, нарадзіся шчаслівым». Не нарадзіўся ён шчаслівым. Не шанцавала яму ні ў мінулым, ні на сямі вятрах гісторыі, не шанцуе яўна і на свежых вятрах перабудовы, абнаўлення, палітычнага і нацыянальнага адраджэння. Там, у мінулым, яго не прызнавалі, забаранялі, крычалі яму грозна «Згінь!» то царскія, то польскія ўлады, там, у мінулым, выкарыстоўвалі яго розныя калабарацыяністы і здраднікі Радзімы; тут, сёння, не прызнаюць, забараняюць, кляймяць, мажуць чорным псеўдазмагары за ідэйную чысціню, за «чысціню сцяга». Сярод апошніх, у прыватнасці, — і некаторыя аўтары часопіса «Политический собеседник».**

**За прыкладамі хадзіць далёка не трэба. Разгарніце свежы, дванаццаты нумар часопіса. Небезвядомая Т. Бумажкова літаральна «рвет и мечет», з пенай на губах, з ахоўніцка-выкрывальніцкім бляскам у вачах і з зацяганымі па прынцыпу «У папа ды быў сабака» звесткамі ў руках кляйміць, чарніць, ірве, шкуматае гэтае самае беднае бел-чырвона-белае палотнішча, ірве і яшчэ топча шматкі нагамі. Паслухаць яе, ды можна зрабіць вывад, што каб не гэты сімвал, не гэты бел-чырвона-белы сцяг, дык не было б і ніякіх ворагаў у беларускага народа і Савецкай улады, не было б нямецка-фашысцкага нашэсця з яго свастыкай (што там свастыка ў параўнанні з гэтым праклятым бел-чырвона-белым!), нічога такога, нічога дрэннага не было б. Уся бяда, усё зло ў ім, у гэтым бел-чырвона-белым... Раз'ятраная аўтарка дагаворваецца да таго, што ўсіх маладых людзей, якія выходзяць на праспект з бел-чырвона-белым сцягам, ледзь не абвяшчае ўнукамі і сынамі тых, хто «люто ненавидели Советскую власть, русский народ», «в годы войны служили полицаями». А яшчэ ў заключэнне і дадае: «...а сегодняшние «змагары» тянут руку к ЦРУ» (?!). Вось так. Тут ужо не проста ствараюць «вобраз ворага», тут ужо гатовы паставіць да сценкі і яшчэ потым па сцяне размазаць.**

**Люди холопского звания**
**Сущие псы иногда.**

жа абысціся без тых ці іншых форм насілля. Але і самы аб'ектыўны гісторык павінен будзе сказаць, што разумная мера ў выкарыстанні насілля была ў шмат *разоў перавышана* ўжо ў першыя гады Савецкай улады. З лета 1918 года нашу краіну захліснула хваля як белага, так і чырвонага тэрору. Большая частка гэтых актаў масавага насілля была лішняй і шкоднай нават з пункту гледжання логікі і інтарэсаў класавай барацьбы. Гэты тэрор толькі рабіў больш жорсткімі варожыя *бакі, зацягваў вайну і нараджаў* новыя непатрэбныя насіллі. На жаль, і Ленін у першыя гады рэвалюцыі намнога часцей гаварыў слова «расстрэл», чым гэтага вымагала тагачаснае становішча. Салжаніцын цытуе Леніна не скажаючы, але каменціруе няўхвальна. Ды наўрад ці хто-небудзь сёння ўхваліць такі, напрыклад, загад Леніна старшыні Ніжагародскага губсавета Р. Фёдараву: «Трэба напружыць усе сілы, скласці тройку дыктатараў (Вас, Маркіна і інш.), навесці **адразу ж** масавы тэрор, **расстраляць і вывезці** сотні прастытутак, якія спойваюць салдат, былых афіцэраў і да т. п.». (падкрэслена Леніным) (ПЗТ, т. 50, стар. 142). Вывезці — так, але навошта забіваць жанчын?

Пра гэтыя злоўжыванні ўладай можна пашкадаваць, іх трэба асудзіць. І ўсё ж гэты тэрор часоў грамадзянскай вайны не прадвызначыў страшэнны тэрор сталінскай эпохі.

Ленін зрабіў нямала памылак, многія з якіх ён сам прызнаваў неаднаразова. Сумленны гісторык абавязкова павінен адзначыць усе гэтыя памылкі і злоўжыванні ўладай. Аднак агульны вынік дзейнасці Леніна, як мы ўпэўнены, быў станоўчы. Салжаніцын думае інакш. Гэта яго права. У сацыялістычнай краіне кожны павінен мець магчымасць выказваць свае погляды і свае думкі аб дзейнасці любога палітычнага кіраўніка.

## Пра Крыленку

Салжаніцын не падтрымлівае ў сваёй кнізе ніводную з рускіх рэвалюцыйных партый. Эсэры — гэта тэрарысты і балабоны, «ніколі дастойна не ўзначальваемыя». Меншавікі, відаць, толькі балабоны. Але больш за ўсіх нападае Салжаніцын на бальшавікоў, якія хоць і змаглі захапіць і ўтрымаць уладу ў Расіі, але праявілі пры гэтым залішнюю і зусім непатрэбную жорсткасць. З бальшавіцкіх кіраўнікоў Салжаніцын асабліва выдзяляе М. В. Крыленку, старшыню Вярхоўнага рэвалюцыйнага трыбунала і пракурора рэспублікі, галоўнага абвінаваўцу на многіх «паказальных» судовых працэсах у першыя гады Савецкай улады. Гэтым працэсам Салжаніцын прысвячае амаль цалкам два раздзелы («Закон-дзіця» і «Закон мужнее»), ды і ў іншых раздзелах імя Крыленкі сустракаецца часта.

Вядома, можна сказаць, што першыя гады Савецкай улады былі часам самай жорсткай барацьбы Савецкай рэспублікі за сваё існаванне. І калі патрэбна была рэвалюцыя і Савецкая ўлада, дык яе трэба было абараняць ад шматлікіх і бязлітасных ворагаў, а гэтага нельга было б зрабіць без ваенна-рэвалюцыйных трыбуналаў і без ВЧК. Але і пры гэтых агаворках нельга ўсё ж не бачыць, наколькі несправядлівыя і бяссэнсавыя па жорсткасці былі ў многіх выпадках гэтыя «судовыя» і несудовыя расправы, як шмат было і ў ВЧК, і ў Трыбуналах выпадковых, неразумных і бязмежна азлобленых людзей. І Крыленка стаў тут хутка адным з галоўных рэжысёраў, мала адрозніваючыся пры гэтым ад старшыні якабінскага трыбунала Кафеналя, які разам з актыўнымі раялістамі адпраўляў на гільяціну і простых абывацеляў, у тым ліку 70-гадовых старых і 18-гадовых дзяўчат, і рэвалюцыянераў, незадаволеных Рабесп'ерам, і славутага хіміка Лавуазье, які прасіў хоць бы дазволіць яму закончыць важную серыю доследаў («Нам не патрэбны вучоныя», — адзначыў Кафеналь).

Вядома, Крыленка не быў выключэннем сярод бальшавікоў. Але і не ўсе кіраўнікі партыі былі падобныя на Крыленку. На жаль, рэвалюцыянерамі становяцца не толькі самыя сумленныя і мужныя людзі свайго часу. Да рэвалюцыі, асабліва ў час уздыму, далучаюцца і людзі азлобленыя, славалюбцы, карыслівыя, людзі з халодным сэрцам і нячыстымі рукамі, а таксама шмат проста неразумных і тупых фанатыкаў, здольных на ўсё. Але гэта зусім не падстава, каб асуджаць усякую рэвалюцыю і ўсіх рэвалюцыянераў.

Трэба ўлічыць і іншае. Для рэвалюцыянераў галоўным выпрабаваннем былі не турмы ці катаргі, не смелыя атакі пад кулямётным агнём белагвардзейцаў, не голад і холад, а ўлада і пры гэтым ўлада на першым часе амаль нічым не абмежаваная. Вядома, што ўлада разбэшчвае і псуе нярэдка і самых добрых людзей. Даводзіцца з жалем канстатаваць, што вельмі многія з бальшавікоў не вытрымалі гэтага выпрабавання ўладай. Задоўга да сваёй гібелі ў мясарубцы сталінскіх рэпрэсій гэтыя людзі самі сталі кіраўнікамі і ўдзельнікамі шматлікіх і жорсткіх рэпрэсій, у большасці сваёй нічым не апраўданых, непатрэбных і шкодных. Але з гэтага зусім не вынікае, што і да рэвалюцыі ўсе гэтыя бальшавікі былі такімі ж несправядлівымі і жорсткімі, раўнадушнымі да пакут людзей, што яны і тады не кіраваліся самымі лепшымі парывамі і самымі высокімі мэтамі і ідэаламі.

Трэба меркаваць, што і Крыленка, які ўступіў у партыю ў 1904 годзе, быў не тым чалавекам, якім ён стаў у 1920 годзе.

Салжаніцын разумее гэты разбэшчвальны ўплыў улады на людзей. З пэўнай шчырасцю ён піша, што і сам пасля года цяжкага і галоднага салдацкага жыцця, пасля года муштравання і знясільваючай шагістыкі, зведаўшы шмат несправядлівасцей ад самых малодшых камандзіраў, зусім усё гэта забыў, ледзь толькі стаў лейтэнантам, а хутка і капітанам. У сваёй свядомасці ён пачаў рэзка аддзяляць сябе ад падначаленых яму салдат, ён усё менш разумеў цяжкасці іх франтавога жыцця, усё больш адлучаў сябе ад іх, як чалавека іншай пароды і іншай касты. Ён, не задумваючыся, карыстаўся ўсімі афіцэрскімі прывілеямі, называў на «ты» бацькоў і дзядоў, пакрыкваў на свайго дзяншчыка і нават быў іншы раз настолькі суровы з салдатамі, што нейкі стары палкоўнік палічыў неабходным у час рэвізіі зрабіць яму вымову. «Высветлілася, — прызнаецца Салжаніцын, — што ад афіцэрскіх пагонаў, якія ўсяго два гады пакалыхваліся на маіх плячах, натрэслася залатога ядавітага пылу мне ў пустату між рэбрамі». Больш таго, ледзь не стаў Салжаніцын і афіцэрам НКУС, яго пераконвалі пайсці ў вучылішча НКУС, і калі б мацней настаялі, дык згадзіўся б. І ўспамінаючы сваё афіцэрства, Салжаніцын, бязлітасны і да сябе, прызнаецца: «Я прыпісваў сабе бескарыслівую самаадданасць. А між тым быў — цалкам падрыхтаваны кат. І калі б я трапіў у вучылішча НКУС пры Яжове — можа, у Берыі я вырас бы якраз на месцы».

Але калі за два гады малодшага афіцэрства так змяніўся Салжаніцын, дык што гаварыць пра Крыленку, які за тэрмін намнога меншы ўзляцеў ад прапаршчыка да Вярхоўнага галоўнакамандуючага ўсёй рускай арміі, а затым і да старшыні Вярхоўнага трыбунала, намесніка наркома юстыцыі і галоўнага пракурора РСФСР. Хоць і скончыў Крыленка да рэвалюцыі два факультэты, але ад такой надзвычайнай улады ап'янеў і здурнеў да непазнавальнасці.

«Відаць, злачынства, — піша Салжаніцын, — ёсць таксама велічыня парогавая. Так, вагаецца, кідаецца чалавек усё жыццё паміж злом і дабром, спатыкаецца, зрываецца, караскаецца, раскайваецца, зноў зацямняецца — але пакуль не *пераступлены парог злачынства* — у яго магчымасці вяртанне, і сам ён — яшчэ ў аб'ёме нашай надзеі. Калі ж гушчынёю злых учынкаў або нейкай ступенню іх або абсалютнасцю ўлады ён раптам пераходзіць цераз парог — ён знік з чалавецтва. І можа — беззваротна».

«Няхай закрые тут кнігу той чытач, хто чакае, што яна будзе палітычным выкрыццём, — піша ў другім месцы Салжаніцын. — Калі б гэта было так проста! — што дзесьці ёсць чорныя людзі, якія каварна ўчыняюць чорныя справы, і трэба толькі адрозніваць іх і знішчаць. Але лінія, што падзяляе дабро і зло, перасякае сэрца кожнага чалавека. І хто знішчыць кавалак свайго сэрца?.. На працягу жыцця аднаго сэрца гэтая лінія перамяшчаецца і на ім, якая то прыцясняецца радасным злом, то вызваляючы прастору світальнаму дабру. Адзін і той жа чалавек бывае ў свае розныя ўзросты, у розных жыццёвых становішчах — зусім розным чалавекам. То да д'ябла блізка. То і да святога. А імя — не мяняецца, і яму мы прыпісваем усё». У гэтай глыбокай заўвазе Салжаніцына мы бачым, прынамсі, частковае тлумачэнне той драмы і таго грэхападзення вельмі многіх бальшавікоў, якія яшчэ да таго, як яны сталі ахвярай сталінскага тэрору, былі ўжо зусім не апошнімі вінцікамі ў створанай Сталіным машыне.

## Што прапануе Салжаніцын?

Але калі ўлада разбэшчвае і псуе людзей, калі палітыка, як думае Салжаніцын, — «гэта нават не род навукі, гэта — эмпірычная галіна, якую не апішаш ніякім матэматычным апаратам, ды яшчэ падуладная чалавечаму эгаізму і сляпым страсцям», калі ўсе прафесійныя палітыкі — гэта «скулы на шыі грамадства, якія перашкаджаюць яму вольна круціць галавой і рухаць рукамі», дык да чаго мы павінны імкнуцца, як будаваць справядлівае чалавечае супольнае жыццё?

Салжаніцын гаворыць аб гэтым мімаходзь, ён заключае свае думкі ў дужкі, не растлумачваючы і не спыняючыся на іх падрабязна. Але і з гэтых кароткіх заўваг відаць, што Салжаніцын лічыў бы самым правільным такую будову грамадства, «калі яго ўзначальваюць тыя, што могуць разумна накіраваць яго дзейнасць». Такімі людзьмі з'яўляюцца ў першую чаргу інжынеры і вучоныя (а рабочыя, на думку Салжаніцына, толькі падсобнікі інжынераў у прамысловасці). Але хто возьме на сябе маральнае кіраўніцтва грамадствам? З усіх разважанняў Салжаніцына вынікае, што маральнае кіраўніцтва грамадствам здольна ажыццяўляць не якая-небудзь палітычная дактрына, але толькі рэлігія. Толькі вера ў Бога можа служыць апорай чалавечай маралі і толькі глыбока веруючыя людзі змаглі лепш за іншых прайсці праз увесь цяжар сталінскіх лагераў і турмаў. Гэтыя думкі патыхаюць утопіяй, яны нават не вельмі арыгінальныя.

Салжаніцын наносіць страшэнныя па сіле ўдары па ўсіх відах палітычнай хлусні. Ён справядліва заклікае савецкіх людзей і перш за ўсё моладзь не садзейнічаць хлусні і не супрацоўнічаць з хлуснёй. Але трэба не толькі пераканаць людзей у лжывасці тых ці іншых палітычных дактрын, але і даць людзям праўду, пераканаць іх у сапраўднасці тых ці іншых поглядаў. Аднак для пераважнай большасці савецкіх людзей рэлігія ўжо не з'яўляецца і не можа стаць ісцінай, і моладзь XX стагоддзя наўрад ці знойдзе для сябе кіраўніцтва ў веры ў Бога. Ды і як без палітыкі і без палітычнай барацьбы інжынеры і вучоныя змогуць узяць на сябе кіраванне грамадскімі справамі ці хоць бы адной толькі эканомікай? Але калі б гэта і было магчымым, як прадухіліць перараджэнне такога грамадства ў дыктатуру тэхнакратаў? А хіба перадача рэлігіі функцый маральнага кіравання грамадствам не прывядзе з цягам часу да ўзнікнення самай горшай формы тэакратычнай дзяржавы?

Закранаючы рэпрэсіі 1937 года, Салжаніцын піша: «Можа, 37-ы год і ПАТРЭБНЫ быў для таго, каб паказаць, як мала каштуе ўвесь іх СВЕТАПОГЛЯД, якім *яны так бадзёра выхваляліся*, разварушваючы Расію, знішчаючы яе цвярдыні, растоптваючы яе святыні». Размова ідзе, як можна лёгка зразумець, аб марксізме. Але Салжаніцын памыляецца. Не марксізм нарадзіў скажэнні сталінізму, і пераадоленне сталінізму зусім не будзе азначаць крушэнне марксізму і навуковага сацыялізму. Ды і добра ведае Салжаніцын і гаворыць у іншым месцы аб тым, што і рэлігійная ідэалогія аблегчыла двухсотгадовыя зверствы інквізіцыі, спальванне і катаванне ерэтыкоў.

Прынамсі, мяне вельмі мала задавальняюць гэтыя ідэалы Салжаніцына. Я глыбока перакананы, што ў агляднай будучыні наша грамадства павінна будавацца на спалучэнні сацыялізму і дэмакратыі і што менавіта развіццё марксізму і навуковага камунізму дазволіць стварыць найбольш справядлівае чалавечае супольнае жыццё.

Інжынеры і вучоныя павінны мець намнога большую вагу ў нашым грамадстве, чым яны маюць сёння. Але гэта зусім не выключае і навукова арганізаванага палітычнага кіраўніцтва. Яно мае на мэце, у прыватнасці, адмену большасці прывілей для кіраўнікоў, разумнае абмежаванне палітычнай улады, эфектыўны народны кантроль, самакіраванне ўсюды, дзе яно толькі магчыма, расшырэнне паўнамоцтваў мясцовых органаў улады, падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад, абмежаванне любых палітычных паўнамоцтваў пэўнымі сродкамі, поўную свабоду слова і перакананняў, уключаючы, натуральна, і свабоду рэлігійных перакананняў і рэлігійнай прапаведзі, свабоду арганізацый і сходаў для людзей і груп усіх палітычных напрамкаў, свабодныя выбары з аднолькавым правам на вылучэнне сваіх кандыдатаў для ўсіх палітычных групак і партый, свабоду перамяшчэння па краіне і свабоду выезду і г. д., і да т. п. Толькі такое грамадства, свабоднае, зразумела, і ад эксплуатацыі чалавека чалавекам і засанаванае на грамадскай уласнасці на ўсе галоўныя сродкі матэрыяльнай вытворчасці, зможа забяспечыць бесперашкодны і ўсебаковы (у тым ліку і маральны) прагрэс як усяго чалавецтва, так і адной чалавечай асобы.

І пакуль няма ў нас такой сапраўднай сацыялістычнай дэмакратыі, развіццё нашай краіны будзе па-ранейшаму марудным, аднабокім і заганным, і не часта будуць з'яўляцца ў нас такія волаты духу, як Салжаніцын.

Перад арыштам Салжаніцын лічыў сябе марксістам. Прайшоўшы праз жорсткія выпрабаванні, апісаныя з такой бязлітаснай праўдзівасцю ў «Архіпелагу ГУЛАГ», *Салжаніцын страціў* веру ў марксізм. Гэта справа яго сумлення і яго перакананняў. Салжаніцын нікому не здраджваў і нікога не прадаваў. Сёння Салжаніцын праціўнік марксізму, і ён не ўтойвае гэтага.

Марксізм, вядома, не загіне, страціўшы аднаго з былых сваіх прыхільнікаў. Мы думаем нават, што марксізм толькі выйграе ад палемікі з такім праціўнікам, як Салжаніцын. Мець такога праціўніка ўсё ж намнога лепш для марксізму, чым мець такіх «абаронцаў», як Кочатаў або Сафронаў. Нічога не была б вартая ідэалогія, якую трэба навязваць людзям толькі сілай або пагрозай прымянення сілы. На шчасце, *сапраўдны навуковы сацыялізм* не мае ў гэтым патрэбы.

20—27 студзеня 1974 г.

---

Бедны, няшчасны бел-чырвона-белы сцяг...

Папала з-за яго і «ЛіМу». У тым жа нумары «ПС», толькі ўжо ў другім, падвярстаным пад «допісам» Т. Бумажковай, артыкуле В. Корзуна «По следам одной беседы». Катэгарычна, безапеляцыйна, зноў-такі, закляйміўшы бел-чырвона-белы сцяг як параджэнне пекла, як «коллаборационистское детище», В. Корзун злосна накідваецца на «ЛіМ», называе яго «ратавальнікам БНРаўскага штандара». З-за чаго? На якой падставе? Знайшлі нумар газеты. Аказваецца, гутарка ідзе ўсяго — чытач у гэтым можа лёгка пераканацца — пра невялікую інфармацыйную заметку, якая змешчана ў самым канцы нумара і дзе паведамляецца адным абзацам, што гісторык М. Ткачоў адказаў на пытанне ўдзельнікаў семінара аб тым, «хто і калі карыстаўся бел-чырвона-белым сцягам». Вось якую нянавісць выклікае гэты сцяг! Нават у прадстаўніка такой, здавалася б, дакладнай, далёкай ад палітычных страсцей навуковай спецыяльнасці, як геахімія і геафізіка (подпіс пад артыкулам сведчыць, што В. Корзун з'яўляецца старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута геахіміі і геафізікі).

Да слова сказаць, калі геахімік-геафізік В. Корзун і ўзяўся за гістарычную тэму і вырашыў палемізаваць з гісторыкам-археолагам, доктарам гістарычных навук М. Ткачовым (робіць ён гэта крыкліва, няўклюдна), то павінен быў бы прачытаць і мець на ўвазе грунтоўны артыкул апошняга, надрукаваны ў газеце «Советская Белоруссия» за 11 і 12 кастрычніка г. г. Ці наскокваць, выкрываць лягчэй і прасцей, чым весці сапраўды навуковую дыскусію?

На пытанне аб тым, адкуль у нашых людзей патрэба ствараць «вобраз ворага», народны дэпутат СССР, доктар юрыдычных навук А. Якаўлеў сказаў нядаўна ў адным з цэнтральных выданняў: «Мяркую, вытокі — у механізмах сацыяльнай псіхалогіі. Бо ўсведамленне сябе агульнасцю «мы» адбывалася, калі адна група людзей супрацьпастаўляла сябе другой — «яны». «Іх» лічылі прычынай усіх бед. Аўстралійцы, напрыклад, усялякую хваробу і смерць прыпісвалі чарадзейству чужога племя. А тунгусы-паляўнічыя, сустрэўшы ў сібірскай тайзе чалавека з «чужой» татуіроўкай, забівалі яго... Мы, вядома, ужо другія. Ва ўсякім выпадку, не адразу патрабуем паставіць «ворага» да сценкі. Але ёсць пакуль у нас тое, што было ўласціва ерэтычнай секце маніхееў. Сектанты гэтыя думалі дзвюма катэгорыямі: «чорная ноч» і «белае святло» — і нічога пасярэдзіне. Такі погляд на рэальнасць да гэтага часу *называюць маніхейскім міфам*».

На нешта падобнае намякае даволі празрыста і В. Корзун. Адмаўляючы з зацятай па-сектанцку прадузятасцю ненавісны яму бел-чырвона-белы сцяг, ён разважае: «Разве в наших национальных костюмах и вышивках наряду с красным и белым не используется и черный цвет?».

Выкарыстоўваецца, таварыш Корзун. Самы сапраўдны чорны. *І калі мы вас правільна зразумелі*, калі правільна «ўсяклі» ваш намёк, то давайце — эўрыка! — прымем такі кампрамісны варыянт: ускінем высока і панясём па праспекце маніхейскае, чорна-белае палотнішча. Чорна-белае і — ніякае іншае. «Чорная ноч» і «белае святло» — і нічога пасярэдзіне...

ЛІМАВЕЦ.

*Музам на пацеху*

Ніл Гілевіч

# На іранічнай ноце

## Сцеражыцеся!

Гэй, вы, гэй, змагары!
Спячку прэч — калі хочаце жыць:
Стомільённыя ніўхі
Наважылі вас задушыць!
Гэй, браты-пабрацімы ўсіх нацый —
З далінаў і гор:
Я вас клічу хутчэй аб'яднацца
І даць ім адпор!
Гэй, апосталы дружбы,
Братэрства, любві, — сцеражыцеся!
Не праспіце, а то...
Як манголы ў часы старажытнасці,
Стомільённыя ніўхі
Нахабна вам сядуць на голаў,
Нават болей нахабна
За тых гістарычных манголаў,
І дыхнуць не дадуць,
А найгорай вам будзе, прадбачу я,
Што яшчэ давядзецца вучыць
І іх мову сабачую!

11.X.1989.

## Ахвяра часоў застою ў літаратуры

Ой, як я пакутаваў, як гараваў!
Як Брэжнеў і Суслаў мне жыць не давалі!
У год — па сем кніг усяго выдаваў,
І толькі тры дачы сабе збудаваў,
І толькі сто раз за мяжой пабываў,
(Па разіку ў месяц) — во, як мардавалі!
Во, страшныя крыўды якія цярпеў!..
Ну, я ж ім, ну, я ж іх і спляжу цяпер!
Заб'ю ў іх магілу асінавы кол
І подпіс пастаўлю уласнай рукой,
Што гэта зрабіў не халуй і не раб,
А перабудовы бясстрашны прараб!

## Роспачны крык рэдактара

І пруць і пруць — то вершы, то раманы...
Тым часам зноў бастуе дзесь народ.
Чаму не ўзяць вам прыклад, графаманы?
Ну, забастуйце й вы! Ну хоць на год!

А дзе тваё ўмяшанне, Усявышні?
Ці сам не кеміш — што і да чаго?
Рабочыя вунь да станкоў не выйшлі.
А графаманы — ўсе да аднаго!

## А што гэта значыць?

У Беларусі на кожнага жыхара ці іначай — на душу насельніцтва прыпадае ў год выданняў на беларускай мове ў 35 разоў менш, чым у Эстоніі на кожную душу — на эстонскай.

**Паводле статыстычнага даведніка.**

Што нам гавораць гэтыя радкі?
А тое, мусібыць, што мы, браткі,
У гэтулькі разоў больш любім лёкая,
Што ўсё аб нашым росквіце галёкае.

## Пазіцыя

Вучоны я! Акадэмічнай пробы!
Памру — пазіцый творчых не ўступлю.
Што кажа мне чынойнік нізкалобы —
Такую я навуку і раблю.

## З выпадку адной неспадзяванай інвектывы

Мадам!
Не бойцеся
І супакойцеся!
Бо тыя, рэдкай афарбоўкі словы,
Што выплеснуліся у руччы прамовы
З глыбіняў сэрца Вашага цудоўнага —
Дабра, любові і пяшчоты поўнага,—
Ці ж я магу
Назад вярнуць іх Вам?
Ні-колі!
О, прыўкрасная мадам!

1.7.1988.

## Пра нашу годнасць

Што праўда,
То праўда —
Даўно гэта стала:
Юродства — багата,
А годнасці — мала.
Багата юродства,
Блюзнерства,
Крыўлянне,
А мова народа —
На грані сканання.
Таму і цямнеем,
Чарнеем ад злосці.
Аж хочацца нават
Ударыць кагосьці.
Каго — зразумела,
Ды чорт яго знае
Чым кончыцца можа
Адвага такая!
І што ж тады робім
У злосці і скрусе
Мы — існыя родам
Сыны Беларусі?
Што — робім?
А б'ём-дабіваем заўзята
Свайго
Недабітага зліднямі
Брата.
У гэтым — і мужнасць,
І мудрасць,
І годнасць.
І нашага гора-гібення
Нязводнасць.

27.XI.1989.

●

Будзеш крыўдзіцца, будзеш злавацца,
Супакою не мецьмеш, браток,
Бо табе будзе вечна здавацца,
Што мне большы дастаўся кусок.

І калі мяне воляю лёсу
Пад бярозамі ў дол пакладуць —
Скажаш: «Во, як раскошна улёгся!
Мне такой шырыні не дадуць!..»

## ФРАЗЫ

Парадокс: чым больш укараняецца думаючых машын, тым больш трэба думаць.

●

І быў бы чалавекам слова, каб не даходзіла да справы.

●

Чамусьці чалавек, які мае многа правоў, часцяком не мае дакладных абавязкаў.

**У. ШКАБРОЎ.**

●

Прагрэсіўнай мы лічым толькі тую частку чалавецтва, якая нам падтаквае.

●

Гандляваць прынцыпамі зараз нявыгадна — занадта танны сёння гэты тавар.

●

Любое глупства гучыць больш пераканаўча, калі скандзіраваць яго хорам у мільён галасоў.

●

Геніі прыходзяць і адыходзяць, а ўзброеныя іхнімі ідэямі дурні — застаюцца.

●

На Захадзе гніе грамадскі лад, а ў нас — бульба ў гароднінасховішчах.

**У. КУЗЕМКА.**



Мал. А. ГАРМАЗЫ.




**У ТЭАТРАХ КРАІНЫ**

**З 18 ПА 24 СНЕЖНЯ**

**18 снежня. 15.25**

**«МЫ І НАША КІНАКАМЕРА»**

Усесаюзны фестываль аматарскіх фільмаў у Мінску «Мой родны кут».

Будуць паказаны фільмы-прызёры фестывалю.

**21 снежня. 9.05**

А. Нікалаі. «Мілы, колькі атруты пакласці табе ў каву!»

Спектакль Горкаўскага акадэмічнага тэатра драмы імя М. Горкага.

Рэжысёр-пастаноўшчык — Р. Вікцюк.

**22 снежня. 17.00**

**«РАДЗІМІЧЫ»**

Літаратурна-мастацкі часопіс, падрыхтаваны Гомельскай студыяй тэлебачання.

**23 снежня. 17.50**

**У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ...**

Тэлечасопіс раскажа пра клопаты і праблемы Беларускага дзяржаўнага мастацкага музея, які адсвяткаваў сваё 50-годдзе.

Вядучы — журналіст І. Сцепаненка.

**23 снежня. 19.15**

**«МЫ ВЯРТАЕМСЯ АДТУЛЬ...»**

Прэм'ера тэлевізійнага спектакля паводле кнігі С. Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі».

Рэжысёр — Ю. Забэла.

Бяруць удзел артысты Л. Давідовіч, Г. Давыдзька, Г. Бальчэўская, З. Белахвосцік, А. Лабуш.

**24 снежня. 19.15**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Л. Паўлікавай чытае артыстка Т. Пузіноўская.

**24 снежня. 19.20.**

**«МЫ АДНОЙ ТАБЕ НАЛЕЖЫМ»**

Канцэрт беларускай песні з удзелам Л. Барткевіча, С. Сокалава-Воюша, Б. Данчыка.

Прэзідыум Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры выказвае глыбокае спачуванне члену рэспубліканскага камітэта прафсаюза, народнаму артысту СССР, старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР, народнаму дэпутату СССР І. М. Лучанку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю бацькі.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 07841

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.